


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 ЛЮТАГА 2002г. № 5/4139 КОШТ 280 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на пяць — 5500 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў, на пяць — 12500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Вада... Крынічная вада...*
*Відаць, пілі такую продкі...*

*ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ*

# Людзі

## Іван

Канец 40-х гадоў мінулага стагоддзя. Позняя лістападаўская раніца. Добры марозік, першы сняжок. Малады хлопец з гармонікам пад пахай подбегам бяжыць пасля вечарынкі ў суседняй вёсцы дадому, у родную вёску. Шляху — чатыры кіламетры лесам. Трэба паспець нешта перакусіць ды на работу ў МТС, да якой яшчэ шэсць кіламетраў. За спазненне — пад суд.

“І раптам гляджу, — гэта ўжо ўспамінае той хлопец, — на снезе сляды босых ног. І з вёскі кіруюць проста на Проню. Усярэдзіне ў мяне нешта ёкнула: не з добрага гэта чалавек такой раню на рэчку босы пакіраваў. Адным словам, узроілася мне, што гэты хтосьці ўздумаў самагубства, і я, забыўшыся на работу, кінуўся следам. Прыбягаю, задыхаўшыся, аж бачу — невысокі каржакаваты дзядок на рэчцы корпаецца.

Дзед, што ты тут робіш? — гукаю.

”Ды вось рыбкі захацелася, я вершы паставіў нанач, а цяпер правяраю”.

“А босы чаму?”

“Лядок яшчэ тоненькі, мог праламацца, дык я ногі намачыў бы”.

Відаць, здзіўленне на хлопцавым твары было такое, што не засталося незаўважаным для дзеда.

“Ты не бойся і не думай абы-чаго, прыходзь лепш увечары да мяне на юшку, — запрасіў ён. — Ведаеш, дзе я жыву?”

“Такі мяне інтарэс разабраў, — працягвае ўспамінаць гарманіст, — што ледзь дачакаўся заканчэння рабочага дня. Увечары толькі адчыніў дзверы ў сенцы дзедавай хаты, па адпаведным паху адчуў, што юшка такі зварана і ўдалася. Ледзь я пераступіў парог, дзед адразу пачаў наліваць у талеркі: дагэтуль вячэраць не пачынаў, сядзеў і чакаў мяне. Наліў па вялікай шклянцы самагонкі, выпілі, закусілі юшкай. Ён налівае яшчэ па шклянцы, на закусь ставіць вялізную місу мёду. Пакаштаваў я і мёду.

“А цяпер ідзі, — кажа, — і запомні, больш нічога і ніколі не бойся”.

“Як нечакана наша знаёмства пачалося, гэтак раптоўна дзед яго і спыніў. Такога дзеда сустрэнеш не кожны дзень, і я, натуральна, пачаў распытваць людзей. Дзед даўно жыў адзін, жонка памерла. Але ў яго хаце ўсё было настолькі дагледжанае, што адсутнасці жаночага клопату не адчувалася. Акрамя хатняй гаспадаркі, трымаў яшчэ некалькі дзесяткаў вулляў.

З пчоламі звязана і адна даўнішняя гісторыя пра дзеда, якую мясцовыя людзі памятаюць і цяпер, пераказваюць адзін аднаму. Яшчэ да рэвалюцыі дзед меў некалькі соцень вулляў, быў моцным гаспадаром. Аднойчы ён павёз прадаваць мёд у мястэчка. Назад вяртаўся позна ўвечары праз лес. А бандзюкі ў мястэчку ўгледзелі, што ў дзеда шмат грошай, і вырашылі абрабаваць яго. Ушасцярых яны і перастрэлі дзеда на вузкай лясной сцежцы. Ды сталася, што на сваю пагібель. Усіх шасцёх дзед прыбіў насмерць. Дзед маленькі, ростам, можа, крыху больш за паўтара метра. У вёсцы ніхто і ніколі не помніў, каб ён з кім і калі біўся. У тое, што ён прытоўк шасцярых мардаваротаў, цяжка было паверыць.

Дзеда судзілі. Суддзі дапытваліся, маўляў, раскажы, дзед, як ты іх біў?

“Я іх і не біў зусім. Я проста махнуў левай рукой — адны паваліліся, махнуў правай рукой — паваліліся астатнія”, — тлумачыў на судзе ён.

Улічыўшы суадносіны сіл і тое, што не дзед напаў, а на яго, суд прызнаў перавышэнне неабходнай меры абароны, і дзед абышоўся штрафам. Але ў тым, што ён біў тых бандытаў, не прызнаў ні на судзе, ні потым, праз некалькі дзесяткаў год”, — так завяршыў расказчык свой аповед.

Той малады гарманіст праз дзесяць год стаў маім бацькам.

Таксама праз дзесяць год той дзіўны і загадкавы дзед, які ўзімку хадзіў босы і забіваў шасцярых, нават не дакрануўшыся да іх рукой, зрабіўся маім прадзедам. Звалі яго Іван Станкевіч, або яшчэ — дзед Кучараўчык. Мянушку гэту яму далі за тое, што меў вельмі густыя, кучаравыя валасы. У маленстве мяне дарослыя таксама жартам іншы раз звалі дзедам Кучараўчыкам. Бо вельмі быў падобны на яго знешне і таксама нікога і ніколі першы не чапаў.

Пражыў дзед Кучараўчык больш за сто гадоў і памёр, калі мне было дзесяць. Першыя крокі я рабіў пры яго нагдядзе.

Калі на Радаўніцу вяскоўцы збіраюцца на могілках, то заўсёды ўспамінаюць Кучараўчыка і гадаюць: а каму ён пакінуў сваю навуку?

## Крысан

Дзеда Крысана, мамінага бацьку, я не памятаю. Ён пайшоў з жыцця, калі мне мінуў толькі год. Расказваюць, чалавек ён быў цвярозы і гаспадарлівы. Пры царскім часе яго прызначалі апекуном над гаспадарамі нядбайнымі, так званымі пустадомкамі. Без дазволу апекуна той, над кім прызначана апека, не меў права распараджацца ўласнай маёмасцю і грашыма.

Па натуры дзед быў услужлівы, любіў паспагадаць і дапамагчы людзям, прычым, як правіла, дапамагаў бескарысліва. Жанаты ён быў другі раз. У яго памерла жонка, а ў бабулі Хадоры загінуў муж. У Крысана застаўся сын, у бабулі — тры дачкі. Хацеў бы я пабачыць сёння мужыка, які ўзяў бы кабету з трыма дзецьмі, ды яшчэ ў такі галодны час, як калектывізацыя. Сумесна нарадзілі яшчэ траіх. Дакладней, трое засталіся жывыя. Першай выжыла мая мама. Перад гэтымі трыма пяцёра дзетак памерлі. Вось такая зыходная аснова для сумеснага жыцця. А калі папраўдзе разабрацца, дык не жыцця, а выжывання.

Дзед працаваў на знос у асноўным на рабоце цяжкай і малааплатнай. Калі працаваў у людзях і нейкая добрая душа вырашала пакарміць работніка, усё, што можна прынесці з таго абеду, прыносіў дамоў і дзяліў паміж дзецьмі.

Між тым характар у дзеда быў не проста ўспыльчывы, а, можна сказаць, узрыўны.

Бабуля расказвала:

“Ідзе дзед у хату, а ў двары квактуха з куранятамі на ганак залезла. Ён ніколі не абміне, пойдзе проста па куранятах, каторыя не паспелі адскочыць — падушыць.

Калі за абедам не паспееш прыняць посуд — увесь змяце далоў і ператопча. А пасля моўчкі ўстане, возьме пілу, сякеру — ды з двара. “Ты куды, Крысан?” — пытаю. “Як, куды? Лес пiліць, трэба ж на посуд зарабіць”.

На гулянках, няхай гэта вяселле, радзіны ці хрэсьбіны, ён звычайна рабіў так. Выпіваў шклянку гарэлкі, злёгку закусваў і ўставаў з-за стала: “Ну, Хадора, ты гуляй, а я пайшоў”.

Пасля вайны, калі людзі вылезлі з зямлянак, у вёсцы яшчэ не было ні будынка сельсавета, ні калгаснай канторы, ні клуба. І сельсавет, і кантора былі ў дзедавай хаце. Увечары яна ператваралася ў клуб. Збіралася моладзь, ладзіла танцы. Ва ўсёй вёсцы знайшоўся толькі адзін гаспадар, які, меўшы сямёра дзяцей і не надта вялікую хату (яна стаіць і сёння і дае мне прытулак у часы наведвання радзімы) аб’яднаў пад сваім дахам усю гэту “грамадскасць”. Не ведаю, як успрымала такую палітыку адкрытых дзвярэй бабуля на той час, але ўжо калі я быў падлеткам, то ніякіх крыўд на дзеда я ад яе не чуў. Відаць, яна была з тых жанчын, якія лічаць: што муж ні зробіць, то і добра. У дзеда ж была адна філасофская формула, якую ён вельмі часта паўтараў: “Ворага накармі, напаі і ў дарогу дай”. Мусіць, гэтай формулай ён і кіраваўся, расчыняючы дзверы сваёй хаты.

Не так даўно я даведаўся, што дзед Крысан, аказваецца, пісаў вершы. Пра гэта мне паведаміў наш зямляк, прафесар Іван Кірылавіч Цішчанка, які, на жаль, таксама пайшоў з жыцця. На паперы вершаваныя вопыты дзеда Крысана не захаваліся. Але калі я пачаў цікавіцца, то сачыняў ён, здаецца, сатырычныя творы. Многія з іх вяскоўцы зналі на памяць.

Яшчэ дзед Крысан, як і мой прадзед Іван, быў выдатны пчаляр. Пчаліных сямей трымаў не многа, але мёду меў заўсёды шмат. Сёння, калі я і сам сярод пчол свой чалавек, дзіўлюся, як дзед з такім няўстойлівым, узрыўным характарам мог паразумецца з пчоламі, якія патрабуюць цярплівасці і засяроджанасці.

Зрэшты, пра ўменне дзеда Крысана паразумецца — наступны штрых. Аднойчы ўвечары, калі моладзь зноў сабралася ў дзедаву хату на танцы, гаворка зайшла пра Тараданчыкавага сабаку. Тараданчык — гэта дзедаў сусед. Двары стаяць праз плот. Сабака яго Шарык быў знакаміты сваёй бязмежнай лютасцю і неразборлівасцю. Для яго ўкусіць чалавека — што нагу задраць. Сабаку гэтага помню і я. Іншы раз ідзеш па вёсцы, а хто-небудзь паведамляе: “Сабака Тараданаў адарваўся!” Гэта азначала, што трэба вяртацца назад, бо Шарык не ашчаджаў ні малых, ні старых. Ноччу ён знаходзіўся на службе: вартаваў магазін. Калі Шарыка навязвалі на доўгі сталёвы трос каля магазіна, побач людзі стараліся не хадзіць. Вось пра гэтага легендарнага сабаку і зайшла гаворка.

“Ат, які гэта сабака, — азваўся раптам дзед Крысан. — Ягня, ды і толькі”.

І заспрачаліся, што дзед зараз жа пойдзе і прынясе гэтае “страшыдла” на руках у хату. Праз некалькі хвілін дзед і сапраўды ўнёс на руках у хату Шарыка. Той стуліўся і паскавытваў, нібы шчанюк. А дзед гэтак жа як прынёс, так і аднёс сабаку назад на дзяжурства.

Аднак умельства сваё дзед дэманстраваў вельмі рэдка, мусіць, толькі тады, калі вымагалі абставіны. І нічога незвычайнага ў гэтым не бачыў.

Але была адна рэч, якую і ён лічыў незвычайнай і аніяк не мог даць веры, што такое магчыма. Незадоўга да ягонай смерці ўрад прыняў нейкую пастанову, згодна якой састарэлым сялянам павінны былі выплачваць якуюсь пенсію. Бацька мой збіраў дзеля гэтага неабходныя паперы, а дзед усё не верыў: як гэта так, ты нічога не робіш, а табе грошы дадуць? І ўвесь час думаў, што бацька над ім жартуе.

Да пенсіі дзед Крысан не дажыў усяго некалькі дзён, ды так і не зведаў, як жа яна выглядае, незаробленая капейка.

## Павел

Пражыў жыццё, а не ведаў, што жыву пад чужым прозвішчам. Здавалася б, ну што тое прозвішча, вунь некаторыя жанчыны іх па дзесяць раз мяняюць, — і як у салон прыгажосці схадзіць. А тут нешта настолькі ўзрушыла, што не мог супакоіцца, пакуль не дабіўся такой-сякой праўды. І зноў мушу вяртацца далёка назад, у дарэвалюцыйныя часы, калі завязваўся тугі вузел майго радаводу, заварвалася ў гістарычным катле д’ябальскае ежыва з мільёнаў чалавечых лёсаў; і нябачна дна ў гэтым катле, і сёрбаць нам яшчэ і сёрбаць.

Дзед мой, Павел Васільевіч Вераб’еў, па нараджэнні Вераб’ёвым не быў. З малых гадоў застаўся круглым сіратой, і з літасці яго забраў у сваю сям’ю нейкі Вераб’ёў. Вось пра яго, гэтага Вераб’ёва, і неабходна сказаць некалькі слоў. Тое, што зрабіў ён, наўрад ці мае аналагі.

Прынамсі, учынак таго Вераб’ёва быў рэзка супрацьлеглым той завядзёнцы, калі ўласная крывінка і самая разумная, і сама прыгожая, і самая добрая. Калі дзеці павырасталі і наспеў час выдзяляцца ім у асобных гаспадароў, Вераб’ёў узяў і адпісаў усю маёмасць не ўласным дзецям, а сіраце, разам з маёмасцю перадаў і сваё прозвішча. Так, лічыў ён, патрабавала справядлівасць. Ці можа хто з вас прыпомніць выпадак, калі людзі кіраваліся не ступенню радства, а аб’ектыўнымі крытэрыямі ацэнкі асобы?

Невядома, і цяпер наўрад ці ўжо даведаешся, як скла́ліся адносіны майго дзеда з роднымі дзецьмі Вераб’ёва. Самаму ж дзеду пагаспадарыць у ахвоту не давялося. Лёсам было наканавана каб ён датыкнуўся да ўсіх самых вялікіх пажараў сваёй эпохі.

Імперыялістычная вайна. Вярнуўся, абжыўся.

Рэвалюцыя, грамадзянская вайна. Вярнуўся — абжыўся.

Першая калектывізацыя. Адным з першых у вёсцы адвёў на агульны двор жывёлу, завёз вупраж, інвентар, малацілку. Актывісты ўсё прафукалі.

Калі пачалася другая калектывізацыя, дзед ісці ў калгас адмовіўся наадрэз. Хаця ісці ўжо не было з чым. Сям’я самым сур’ёзным чынам галадала калі актывісты прыйшлі ў двор апісваць маёмасць і раскулачваць. А сам кулак тым часам паміраў з голаду.

“Бацька ўжо апух і не ўставаў з ложка. І ў гэты час нам з Баку прыйшла пасылка ячных круп. Нашы ездзілі на нафтараспрацоўкі ў заробкі, і вось нейкі родзіч прыслаў. Мама наварыла заціркі і стала з лыжкі карміць бацьку. А ён ужо не хацеў браць ежу, няхай дзецям, кажа, можа, яны хоць выжывуць. Зацірку ў рот улівалі сілай, і ён выжыў”, — так расказваў мне мой бацька.

Дзед выжыў, бо трэба было яшчэ схадзіць на фінскую вайну, выжыць там, вярнуцца дамоў, каб незабаве пайсці яшчэ на адну вайну. Але жыццё яго, мусіць, стала ўжо не патрэбным дзяржаве. Ён загінуў пад Варонежам у 1942 годзе. Калі б ён застаўся жывы і вярнуўся і з гэтай вайны, мой бацька вырас бы зусім іншым чалавекам. Ён расказваў бы мне іншыя гісторыі, спяваў іншыя песні, і меў бы зусім іншы занятак, чым той, якім мусіў займацца. А гэта значыць, што зусім іншым чалавекам вырас бы і я.

Але ўсё сталася гэтак, як сталася. Мне не прыйшлося глядзець на жыццё народа з вакна камфартабельнага аўтамабіля. Спадчыну маю складаюць неардынарныя, супярэчлівыя, пакутныя лёсы маіх продкаў. І мне несці іх крыж.

**Павел ВЕРАБ’ЁЎ**

## "Правінцыялка"

**Менавіта такую, па праўдзе кажучы, нечаканую назву дала сваёй кнізе паэзіі, выпушчанай "Беллітфондам", Зоя Калкоўская. Відаць, тым самым хацела падкрэсліць, што яе муза прапісана ў глыбінцы.А, магчыма, жадаючы нагадаць, што да напісанага трэба паставіцца, прымаючы пад увагу ўсё гэта. Што да апошняга, дык паэзія ці ёсць, ці яе няма, незалежна ад таго, дзе напісаліся творы. А вось жыве З. Калкоўская і сапраўды, калі прытрымлівацца яе вызначэння, у правінцыі. Нарадзілася ў 1957 годзе ў вёсы Шашкі Стаўбцоўскага раёна, скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а цяпер працуе выкладчыцай Уздзенскага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча № 210. З'яўляецца аўтарам зборніка вершаў "Ручаінкай веснай", аповесцяў "Жыві, Лёнька", "Вар'яцтва" і "Прарочы шлях". Чытаць іх не давялося, таму цяжка меркаваць аб мастацкіх вартасцях, а пра кнігу "Правінцыялка" трэба сказаць, што яна атрымалася няроўнай. У рэшце рэшт — рэч звычайная. Рэдка якому аўтару ўдаецца вытрымаць аднолькавы мастацкі ўзровень: нешта ўдаецца лепш, штосьці — горш. Але па лепшых творах можна меркаваць, што задаткі таленту ў З. Калкоўскай ёсць. Яе лірычная гераіня паўстае чалавекам са сваім унутраным светам, а жыццё яе — як і трэба было чакаць, звычайнае чалавечае жыццё, у якім ёсць свае ўздымы, радасці, але і знаходзіцца месца расчараванням, горычы. Асабліва, калі параўнаць тое, пра што марылася, з самой рэальнасцю:**

*Маленькая правінцыялка*
*Марыла быць русалкай.*
*Піла з чысцюткай крыніцы*
*Мрояў святую вадзіцу.*
*Толькі разбіліся мары*
*Аб лёсу зласлівага хмары.*
*Жыве на свеце жанчына*
*Адна, як у лузе каліна.*

**Аднак гэтая непрыкаянасць лірычнай гераіні яшчэ і ад таго, што не толькі ў асабістым жыцці "трэшчыны". Сама рэчаіснасць такая, што выклікае нярэдка песімістычны настрой, але ў лепшых вершах З. Калкоўскай не толькі гэта. Відавочна і жаданне адчуць жыццё ва ўсёй яго складанасці і напоўненасці, зразумеўшы не толькі сутнасць сённяшняга, а спасцігнуўшы яго ў паяднанасці часоў і падзей:**

*Нясцерпна хочацца парою*
*у глыбіню вякоў зірнуць.*
*Крануць уласнаю рукою*
*святыні, продкаў зноў пачуць.*
*Хто вы? Якімі вы былі?*
*Аб чым вы марылі,*
*аб чым тужылі?*

**Пазіцыя лірычнай гераіні З. Калкоўскай — дзейсная, па-грамадзянску актыўная:**

*Калі не я, то хто*
*ачысціць сховы грэшныя душы*
*ад кар'ерызму,*
*сквапнасці,*
*гардыні...*
*Хто пашкадуе сціплыя святыні*
*магутнай, богам*
*дадзенай, імшы?*

**Але яна, гэтая лірычная гераіня, не адчувае сябе адлучанай ад іншых. Яна — з усёй грамадой:**

*Калі не я,*
*то*
*хто?*
*Калі не ты,*
*то*
*хто?*
*Калі не мы,*
*то*
*хто?*

**Удаюцца З. Калкоўскай і лірычныя вершы. Асабліва тыя, што падказаны асабіста перажытым.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

КРЫТЫКА

# Урокі гісторыі Алеся Петрашкевіча

Праблема, якую актуалізаваў Алесь Петрашкевіч у сваёй новай п'есе "Воля на крыжы", у беларускай гуманітарыстыцы з'яўляецца адной з самых балючых: падпарадкаванне (ці мацней, у залежнасці ад пазіцыі "новых а мудрых гісторыкаў" — згодніцтва, калабарацыя) класікаў беларускай літаратуры палітычным патрабаванням Савецкай улады. Падкрэслім, размова вядзецца пра **класікаў** — тых літаратараў, хто меў вялікі жыццёвы, светапоглядны досвед, трывалыя нацыянальна-дэмакратычныя перакананні і немалыя заслугі ў справе беларускага нацыянальнага адраджэння (Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля). Балючасць праблемы ў тым, што гэтыя мастакі, законныя прэтэндэнты на ролю духоўных лідэраў нацыі, выразна ўсведамляючы зусім не гуманістычную, мякка кажучы, сутнасць бальшавіцкай улады, па тых ці іншых прычынах усё ж пайшлі на згоду з ёю, дазволілі ёй выкарыстоўваць сваё імя, свой аўтарытэт. Савецкай палітычнай ангажаванасцю зганьдыя вышэй класікі беларускай літаратуры фактычна апраўдалі ўсе людажэрскія дзеянні бальшавіцкай улады 30-х і наступных гадоў, ухвалілі генацыд беларускай нацыі. Вось табе і маеш "духоўнае лідэрства"...

Мы свядома завастраем, радыкалізуем свой пункт гледжання, каб больш выразна выявіць глыбінную сутнасць праблемы. Бо цэнтральнае ядро яе, пры ўсіх магчымых гістарычна абгрунтаваных агаворках, быццам нейкая злавесная пухліна працягвае смылець: як бы пераканаўча даследчыкі ні даказвалі факт унутранага непрыняцця нашымі класікамі дзейнасці Савецкай улады, што называецца, з песні слоў не выкінеш. Сваю даніну ўладзе беларускія песняры сплацілі спаўна. Варта разгарнуць адпаведныя тамы ў зборах твораў (творчасць другой паловы 20—30-х гг.), каб пераканацца ў гэтым.

Атрымліваецца, зламаліся, здаліся нашыя "гусляры"?.. Што тычыцца Я. Купалы, то апошнія па часе ўзнікнення даследаванні, грунтоўна падмацаваныя архіўнымі і мемуарна-фактычнымі матэрыяламі (Колас Г. Лёс Купалы — міфы і рэальнасць — "Полымя", 1994, № 10; Тычка Г. Я. Купала і Савецкая ўлада — "Полымя", 1999, № 1 і інш.), доказна сведчаць: паэт не скарыўся, хаця і вымушаны быў "падтакваць гучным рэвалюцыйным рытмам, прыладжваючы сціло да гучлівай "пралетарскай" моды" (Каўка А. Драма асобы — драма ідэі — "Полымя", 1994, № 9). І ўсё ж чым больш чытаеш работы даследчыкаў-інтэрпрэтатараў, нават самыя доказныя і аргументаваныя, чым даўжэй вандруеш па галерэях лагічна выбудаваных, абгрунтаваных меркаванняў, тым неадступней жаданне даведацца-ўявіць, як жа было насамрэч, з усімі псіхалагічна-дэтальнымі падрабязнасцямі. Вось такое адчуванне, магчыма, і з'явілася зародкам мастацкай задумы п'есы Алеся Петрашкевіча "Воля на крыжы".

Найперш адзначым трывалую дакументальную аснову п'есы. Аўтар улічыў, здаецца, усе вядомыя на цяперашні час мемуарныя і дакументальныя звесткі як канкрэтна-біяграфічнага, так і агульнагістарычнага характару. Часам драматург ужывае дакументальныя цытаты ў мову персанажаў амаль без ніякай адаптацыі, што месцамі надае твору дэкламацыйна-публіцыстычную афарбоўку. У цеснай сувязі з адзначанай асаблівасцю п'есы, яе дакументальнасцю, знаходзіцца і яшчэ адна праблема: жанравая. Яна мае непараўнальна больш абсяг, чым уласна літаратурны. Аўтар вызначыў жанр п'есы як трагедыю, што, на наш погляд, не адпавядае ні наяўнай мастацкай рэальнасці твора, ні самому "жыццёваму жанру" біяграфіі Я. Купалы 30—40-х гг.

Класічная тэорыя драмы патрабуе ад трагедыйнага героя адчайнадушнага змагання з фатальна непераадольнымі абставінамі. Думаецца, няма падстаў ставіць пад сумненне ці рэвізаваць гэты канон. Але ж ні Я. Купала як гістарычная асоба, ні Я. Купала-мастацкі характар у творы А. Петрашкевіча ролі трагедыйнага героя не адпавядаюць. У першым выпадку размову можна весці хіба толькі пра трагічнасць чалавечага і пісьменніцкага лёсу Я. Купалы, у другім — пра драматычныя (у вузкім азначэнні) калізіі п'есы. Пры ўсёй павазе і пачуцці піетэту перад маштабам асабістай і мастацкай значнасці постаці Я. Купалы ў беларускай гісторыі XX ст., мы не маем ніякіх звестак, якія б засведчылі сапраўды трагедыйны (то бок — дзейсны, змагарны) характар яго грамадскай пазіцыі. Мы можам толькі меркаваць ды здагадвацца, што на славутых бяседах 20-х гг. у гасцінным Купалавым доме, магчыма, размовы вяліся больш канкрэтныя, чым "кухоннае абгаворванне" заган бальшавіцкага кіравання Беларуссю. Дарэчы, у эміграцкім друку можна знайсці цьмяныя згадкі пра існаванне ў Савецкай Беларусі антыбальшавіцкай падпольнай арганізацыі, быццам бы кіраванай прафесарам У. М. Ігнатоўскім (гл. "З гісторыяй на "Вы". Вып. 3. Мн., 1994, с. 123—125) і пра тое, што Я. Купала падчас сваіх замежных паездак спрычыніўся да падтрымання кантактаў паміж гэтай Менскай арганізацыяй і асяродкам беларускіх незалежнікаў у Празе. Аднак звесткі гэтыя дужа няпэўныя, каб ім можна было безаглядна давяраць, хаця ў выпадку нават частковай іх праўдзівасці дзейнасць нацыянальнай інтэлігенцыі ў 20-х гг. выглядала б зусім у іншым святле, чым уяўлены, што існавалі дасюль пра зачараваных салодкім спевам савецкіх ідэалагічных Сірэн беларускіх нацыянальных дзеячаў. Ды і чыннасць Я. Купалы 20-х гг. у такім выпадку пачынае ўспрымацца зусім па-іншаму, бо набывае шукаемую ўсімі даследчыкамі лагічнасць, паслядоўнасць, мэтаскіраваную дзейнасць.

Зразумела, што ў навукова-публіцыстычных распрацоўках такія допушчэнні непрымальныя, бо заснаваныя на мінімуме інфармацыі, версіфікацыі якую немагчыма. У мастацкім жа творы пафантазіраваць на гэтую тэму было б можна, але А. Петрашкевіч у дадзеным выпадку выступаў у двуадзінай іпастасі — як гісторык, і як мастак. Драматург не захацеў вольна абыходзіцца з вядомымі гістарычнымі фактамі, непарушна захаваўшы дакументальна вядомую канву падзей, а гэта няўхільна адбілася на сутнасці цэнтральнага мастацкага характару: вобраз Я. Купалы атрымаў у п'есе трактоўку пасіўнай ахвяры.

Атмасфера асуджанасці, чакання найгоршага пануе ў карціне III, у якой Я. Колас прыходзіць да Купалы з чарнавіком вядомага пакаяннага ліста. У карцінах IV, V (допыты ў ДПУ) паэт зноў выглядае ахвярай д'ябальскай гульні, пераважна апраўдваецца, адбіваецца ад навязваемай яму ролі кіраўніка СВБ. Ініцыятывай цалкам валодаюць ДПУшнікі, з'яўляецца адчуванне, што Я. Купала трапіў у пастку, і ўсе яго словы-дзеянні нагадваюць сутаргавыя безвыніковыя рухі істоты ў такім становішчы. Зрэшты, паэт сам пра гэта гаворыць у наступнай VI карціне: "...абклалі чырвонымі сцяжкамі, як ваўка, і гоняць цяпер у катух ды на ланцуг". Спроба самагубства Я. Купалы — па-чалавечы зразумелая і мужная спроба разарваць вязьмо фатальных абставін, у якія трапіў паэт. Але зноў жа — гэта ўчынак не трагедыйнага героя. Тым больш, што самагубства не адбылося, і ў карціне IX падчас цяжкой размовы з У. М. Ігнатоўскім Я. Купала раптоўна з ходу падпісвае падсунутую чэкістам вя-

*Петрашкевіч Алесь. Воля на крыжы. Трагедыя "Полымя", 2000, № 2; Петрашкевіч Алесь. Воля на крыжы: Гістарычныя п'есы. Мн., 2000.*

КНІГАРНЯ

# Капыльскі том гісторыка-дакументальнай хронікі

Працягваецца выданне шматтомнай серыі гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі. Пабачыла свет чарговая "раённая энцыклапедыя" — "Памяць. Капыльскі раён". Укладальнік — вядомы пісьменнік, літаратурны крытык і краязнаўца Алесь Марціновіч.

Новы том хронікі, выпушчаны выдавецтвам "Беларуская навука", сведчыць аб грунтоўнасці працы, якая папярднічала збіранню, стварэнню капыльскай "Памяці". Так, пабудова выдання носіць традыцыйны характар, вядомы па папярэдніх гісторыка-дакументальных хроніках. Тыя ж раздзелы: "Ад часоў першабытных — 1917", "1917—1941", "1941—1945", "Ахвяры вайны" (спісы загінуўшых землякоў), 1945 — да нашых дзён". Але ж галоўнае — насычэнне, змест. Адразу ж варта заўважыць, што ўкладальнік (А. Марціновіч — і аўтар амаль дваццаці артыкулаў "Памяці"), увесь аўтарскі калектыў праявілі сябе руплівымі, дасведчанымі знаўцамі капыльскай тэмы. А. Марціновіч у свой час выдаў выключна капыльскую краязнаўчую кнігу "Ля Каменкі брусістай". У "Памяці" — працяг, удакладненне капыльскіх краязнаўчых прыхільнасцяў пісьменніка, лёс якога здаўна паяднаны з Капыльскім краем. І хаця нарадзіўся А. Марціновіч у Казловічах Слуцкага раёна, школу — Навасёлкаўскую сярэднюю — скончыў на Капыльшчыне. У свой час і працаваў у капыльскай раённай газеце "Слава працы".

Капыльская "Памяць" уражвае ўвагай да лёсаў ураджэнцаў раёна. Гісторыю ж робяць людзі, чалавекі-адзінкі. Не забываліся пра філарэта, даследчыка побыту і культуры казакоў Адольфа Янушкевіча, яўрэйскага літаратуразнаўца Абрама Паперню, польскую пісьменніцу Зоф'ю Тшашчкоўскую, класіка яўрэйскай літаратуры Мендэля Мойхера-Сфорыма, вучонага-аграрніка Міхаіла Ачапоўскага, крытыка і публіцыста Льва Клейнбарта, рэвалюцыянера Казіміра Петрусевіча, пісьменніка Лявона Лобіка... У капыльскай "Памяці" — шмат зваротаў да ўжо раней друкаваных крыніц. Прыкладам, нарыс пра малавядомага шырокаму колу чытачоў пісьменніка Лявона Лобіка — старонкі з кнігі Генадзя Каханоўскага "Адчыніся, таямніца часу". Падаючы біяграфіі асобных літаратараў, збіральнікаў "Памяці" дапаўняюць энцыклапедычныя звесткі ўрыўкамі з нарысаў, мастацкіх аўтабіяграфій пісьменнікаў, публіцыстаў. Услед за артыкулам пра Кузьму Чорнага — "Я пішу аб людзях і для людзей" (з аўтабіяграфій Кузьмы Чорнага). За біяграфіяй журналіста і публіцыста Марыі Карпенкі (амаль трыццаць — ! — гадоў узнавальвала калектыў рэдакцыі часопіса "Работніца і сялянка") — старонкі яе эсэ "У Капылі на гары". Чытаем: "Цяжка пісаць пра тое, што ў сэрцы. Не выказаць словамі безліч пачуццяў, успамінаў, роздуму пра тую кропку зямлі, якая звычайна завецца малой радзімай. Хто сказаў — малая? Для мяне яна — найвялікшая..." Чытаем — і, пэўна ж, хваляванне ў душы

домую інвектыву заходнебеларускім "нацыянал-фашыстам", патлумачыўшы да жаху здзіўленаму першаму прэзідэнту БАН свае дзеянні: "... за мяжой жывуць не дурныя людзі. У крайнім выпадку не дурнейшыя за тых, што пісалі гэта "опровержение". І яму будзе столькі ж веры, колькі і таму, што нечая сучка мазь паела і сама сабе мазёнку на галаву надзела". Гэтая калізія зусім не трагедыйная. Увогуле, улічыўшы як мастацкія рэаліі п'есы, так і дакументальна-біяграфічную аснову сутнасці цэнтральнага мастацкага характару, найбольш прымальным падаецца нейтральнае жанравае вызначэнне "гістарычная драма".

Канфлікт у творы разгортваецца своеасабліва: калі бальшавіцкая групоўка ажыццяўляе свае валявыя імкненні мэтанакіравана і напорыста, то супрацьлеглы бок, згуртаванне беларускіх інтэлігентаў, паказана як аб'ект дзеяння ўлады. Што, зрэшты, і адпавядае гістарычнай сапраўднасці. Бо ж не з узброенымі тэрарыстамі змагаліся савецкія чэкісты, а з людзямі выключна цывільнымі і, як усе сапраўдныя інтэлігенты, у пэўнай ступені адасобленымі паміж сабой. Аднак не такія яны і пасіўныя ды бяздзейныя. Галоўны сэнс іх ахвярнага і пераможнага ў канчатковым выніку (бо Савецкая ўлада знікла, а беларуская незалежніцкая ідэя жыве) супрацьстаяння знішчальнай у літаральным сэнсе дзейнасці бальшавікоў драматург выяўляе ў карціне IX, калі спакутаваны пасля спробы забіць сябе Я. Купала пярэчыць безнадзейна-роспачным разважанням У. М. Ігнатоўскага: "...аснова, якую стварылі лепшыя з нашага народа і да Саветаў і пры Саветах, ацалее, як бы ні шалелі вар'яты ад ультраінтэрнацыяналізму. Менавіта на гэтай аснове і паднімецца некалі светлая будыніна нашай навукі, культуры, гаспадаркі... і незалежнасці". Гэтае прарочае сцверджанне і выяўляе глыбінную ідэю п'есы, якая заканамерным чынам пераклікаецца з пафасам знакавага, нават сваёй назвай, для беларускай літаратуры твора А. Петрашкевіча "Напісанае — застаецца".

Увогуле, драма А. Петрашевіча "Воля на крыжы" — вельмі сучасны твор, як прыналежны да лепшых узораў гістарычнага жанру. У сучаснай беларускай літаратуры, здаецца, дагэтуль не было такой плённай спробы выяўлення глыбіннай сутнасці гістарычнай эпохі, якая, на вялікі жаль, для беларусаў не завяршылася разам з адыходам Савецкай улады. Размова вядзецца пра сюжэтную лінію "Сталін — Гей — Рапапорт — Бэндэ — Панамарэнка". Уражвае ступень навуковай і мастацкай ужыўленасці пісьменніка ў гістарычны матэрыял. Пра мэты і задачы сваёй рэпрэсіўна-русіфікатарскай дзейнасці згаданыя вышэй персанажы разважаюць з той ступенню адкрытасці і дакладнасці фармулёвак, якая падаецца найбольш гістарычна імавернай і адначасова максімальна гарманічнай у сэнсе драматургічнай умоўнасці. Па ступені канцэптуальнай выверанасці і маштабу асэнсавання сутнасці палітычнай чыннасці Савецкай улады на Беларусі твор А. Петрашкевіча можна назваць катэхізісам (не ў сэнсе прымітыўнасці, але — асноватворнасці) разумення як бальшавіцкай, так і сучаснай расійскай імперска-шавіністычнай палітыкі. Адначасова драматург пераканаўча індывідуалізуе мастацкія характары бальшавікоў, удала малюе псіхалагічныя партрэты кожнага персанажа згодна яго ролі ў спраўджаным спектаклі яе вялікасці Гісторыі. Пэўныя заўвагі выклікаюць хіба толькі некаторыя моманты ў трактоўцы вобраза Сталіна. Наўрад ці "правадыр народаў" называў бы Беларусь Паўночна-Заходнім краем нават сярод сваіх блізкіх паплечнікаў — гэта не ў правілах бальшавіцкай палітычнай фразеалогіі. Ды і панібрацка-фамільярныя ноткі, якія часам праслізгваюць у размове кіраўніка бальшавіцкай дзяржавы з Панамарэнкам у карціне X ("С чем приехал, что скажешь, Пантюша?"; "Пантюша, не задавай бестактных вопросов товарищу Сталину... пока он тебя уважает") не зусім адпавядаюць нашым уяўленням пра сталінскі тып кіраўніцтва.

Бясспрэчная навацыя і адначасова несумненная ўдача драматурга — мастацкі характар Лукаша Бэндэ. Наколькі вядома, гэтую інфернальную для нашай літаратуры фігуру настолькі маштабна ўвасобіць у мастацкім вобразе не адважваўся ніхто з беларускіх пісьменнікаў. Сутнасць характару Бэндэ, на наш погляд, пісьменнікам схоплена дакладна: гэткая сумесь фанатызму, цытатнага дагматызму, прагі ўлады, неўтаймоўнай цягі да фіскальства і прымерванне на сябе ролі "шэрага кардынала" ў вызначэнні лёсу беларускай літаратуры і яе стваральнікаў. Сапраўды, "сексот-уникум! Доносчик-феномен!", як выказаўся ў п'есе начальнік ДПУ Рапапорт. Дыялог першага сакратара ЦК КП /б/Б Гея і Л. Бэндэ ў карціне II — гэта выключная па дакладнасці, сцісласці і паўнаце характарыстыка сутнасці белапаўска-бэндаўскага разгрому беларускай літаратуры.

П'еса "Воля на крыжы" — шматпланавы твор. У ім рэтраспектыўна з той ці іншай ступенню мастацкага аналітызму асэнсаваны трагічны вопыт беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на працягу ўсяго XX ст., бо 30-я гг. сталі пераломным гістарычным этапам беларускага адраджэння, калі палітычны курс дзяржаў-метраполій (санацыя на "крэсах усходніх", барацьба з "нацдэмамі" бальшавіцкай Масквы) канчаткова вызначыўся, і становішча айчыннага незалежніцкага руху набыло канстантную для наступных дзесяцігоддзяў, у тым ліку і сучаснага перыяду, сацыяльна-палітычную пэўнасць. Так, гісторыя — настаўніца жыцця, і А. Петрашкевіч — адначасова і як гісторык, і як мастак — чарговы раз мэтанакіравана ставае ў беларускай драматургіі таленавітыя ўрокі гісторыі, навуковая глыбіня і мастацкая значнасць якіх не выклікае сумненняў.

**Змітро МАМАЧКІН**

---

кожнага з нас. Тым болей: у кожнага з капылян — асаблівае хваляванне. А колькі іх, капылян, раскідана за межамі раёна, у Мінску, у Беларусі, па ўсяму былому СССР, а мо і далей. Сённяшні старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь знакаміты вучоны ў галіне фізікі Аляксандр Вайтовіч, акадэмік-машынабудаўнік Міхаіл Высоцкі, географ, палярнік Ісак Даўгін, галоўны кардыёлаг Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь акадэмік Мікалай Манак, археолаг Вольга Ляўко, доктар філалагічных навук, празаік Алесь Бельскі і шмат хто яшчэ — усё капыляне!

Гісторыка-дакументальная хроніка досыць шчыльна "населена" архіўнымі дакументамі. Пастановы павятовага міравога з'езда, Мінскай палаты крымінальнага суда, справаздачы Мінскага губернатара, рапарт павятовага спраўніка, іншыя дакументы, выцягнутыя з цянётаў гістарычна-архіўнай памяці, — выключны памагаты для вывучэння гісторыі Капыльшчыны і Беларусі ўвогуле ў школах Капыля, Капыльскага раёна.

Безумоўна, нешта засталося "за кадрам". У кнізе "Памяць. Капыльскі раён" шмат месца занялі спісы землякоў, якія загінулі ў войнах, трапілі пад каток сталінскіх рэпрэсій, воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія злажылі галовы ў Афганістане. Няма ніякіх сумненняў, што ў капыльскай "Памяці" будзе працяг. За гады збірання гісторыка-дакументальнай хронікі сфарміраваўся выразны капыльскі краязнаўчы актыў. Пра іх, руплівцаў захавання памяці, — і асобная частачка "капыльскай энцыклапедыі": "Летапісцы роднага краю". Сярод герояў, грамадскую прафесію якіх вызначылі такім чынам, — навуковы супрацоўнік Капыльскага краязнаўчага музея Фёдар Абрамчык (аўтар тапанімічнага слоўніка "І гэта ўсё мой край"), краязнаўца Барыс Багдановіч (стварыў у свой час школьны музей, які пасля стаў асновай раённага краязнаўчага музея), журналіст Усевалад Гурыновіч (на жаль, памёр у 1997 годзе. Паспеў шмат што зрабіць для збірання матэрыялаў у хроніку.), журналіст Іван Ігнатчык (у выхадных дадзеных хронікі, што датычыць ілюстрацыйнага матэрыялу, адзначана: "Фота І. Р. Ігнатчыка..."), пісьменнік Алесь Марціновіч, журналісты Іван Пракарына (памёр зусім нядаўна), Віктар Семянкевіч, краязнаўцы Павел Сямёнаў, Валянціна Шуракова, намеснік старшыні Капыльскага райвыканкама Марыя Шэіна.

Нельга не адзначыць і такі факт. "Памяць. Капыльскі раён" выдадзена накладам 5100 асобнікаў. Для параўнання: у нядаўна выдадзенага першага тома мінскай (гарадской, сталічнай) "Памяці" наклад роўны 5000 экземпляраў. Што ні кажы, Капыль і тут наперадзе ўсіх!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

---

*КНІГАРНЯ*

# Крыгагром — гэта...

Вы не ведаеце, што такое крыгагром? У такім разе паспяшайцеся набыць новую кнігу Казіміра Камейшы з аднайменнай назвай, выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва". Ёсць у ёй і верш, які таксама называецца — "Крыгагром". Пра што ? Ды, бадай, лепей з ім пазнаёміцца цалкам, бо ў пераказе ён згубіць многае, а галоўнае — знікне пачуццё навізны, з якой паэт прамаўляе пра з'яву, блізкую і знаёмую многім з тых, хто жыў у вёсцы ці жыве сёння там. Здавалася б, усё звычайнае, але як хораша пра гэта сказана?! Адчуванне такое, што і сам прысутнічаеш пры першым вясновым абуджэнні прыроды, калі да сапраўднай вясны яшчэ далёка, але яна ўжо гучна заяўляе пра сябе, нагадвае: іду я, а таму рыхтуйцеся мяне сустракаць:

*Скуль той гром неспадзяваны,*
*Што трасе, як трасца, дом.*
*На рацэ прачнуўся рана*
*Крыгагром,*
*Крыгагром.*

*Глянь:*
*Бушуе,*
*ломіць,*
*крышыць.*
*Гэту плынь не ўгаманіць.*
*Грозна крыга йдзе на крыгу.*
*І грыміць,*
*І грыміць...*

*Хто той сілы вымагае,*
*Цяжка дыхае грудзьмі?*
*З пенаю шуга шугае.*
*І шуміць,*
*І шуміць....*

*Праз гучшэўе,*
*па ўзбалоццю*
*Красавік бяжыць з багром.*
*Чуеш: далечы калоціць*
*Крыгагром,*
*Крыгагром!*

*Аж па крону залівае*
*Прыбярэжную сасну.*
*З гулам водгулле сплывае*
*У вясну,*
*У вясну...*

Верш дынамічны, вобразна насычаны. Чаго варта толькі гэтае: "красавік бяжыць з багром"?! А хіба не яркі, запамінальны малюнак, што ўвасабляе ў сабе вясновую хаду: "З гулам водгулле сплывае..."?! Запамінальна і гэтае: "Грозна крыга йдзе на крыгу..."

Ды і ўся кніжка, адрасаваная дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, атрымалася надзіва цікавай і змястоўнай. К. Камейша даўно ўступіў у пару творчай сталасці. Ды і жыццёвага вопыту стае, а без яго ў дзіцячай літаратуры таксама цяжка. Можна мець немалыя задаткі таленту, але слаба разбірацца ў псіхалогіі тых, каму адрасуеш свае творы, а тады пры ўсіх самых лепшых намерах яны наўрад ці выклічуць належны рэзананс у дзіцячых сэрцах. А каб дзеці цябе зразумелі, трэба размаўляць з імі як з роўнымі. І закранаць самыя розныя тэмы. А падобнымі памкненнямі і кіруецца К. Камейша, таму ў яго аднолькава хораша гучаць як творы з традыцыйнымі сюжэтамі, так і такія, у якіх паэт, магчыма, піша і крыху на падрост. Як у вершы "Лазня": Сёння лазня ў дуброве.

*Ладзіць лазню*
*дождж вясновы.*
*Мые травы*
*і сцяжыны,*
*Мые*
*лісце на галінах.*
*Хвошча венічкам*
*краплістым,*
*Прамяністым і іскрыстым.*
*Па іміху пратупаў*
*волкім,*
*Грабянец узняў*
*вясёлкі.*
*Роўна кроны прычасаў.*
*А пасля*
*схаваўся сам.*

Хутчэй за ўсё пры знаёмстве з гэтым творам спатрэбяцца некаторыя ўдакладненні з боку дарослых. Усё ж верш вельмі вобразна насычаны, пры тым асобныя параўнанні, як на першы погляд, крыху цяжкаватыя для дзіцячага ўспрымання. Але гэта і добра. Хлопчыкі і дзяўчынкі, пазнаёміўшыся з "Лазняй", пераканаюцца, наколькі багатым можа быць паэтычнае слова, як шмат ім можна сказаць і выказаць.

З шэрагу падобных твораў і верш "Хітры дождж", у якім К. Камейша таксама жывапісуе словам. І гэтаксама, як і ў "Лазні", атрымаўся запамінальны малюнак:

*Ноччу*
*спорны дождж ішоў*
*І пайшоў кудысьці,*
*Але як амаладзіў,*
*Ажно зззяе, лісце!*
*. . . . . . . . . . . . .*
*Як галінку я крануў,*
*Быў і сам не рады.*
*Ён зваліўся на мяне*
*Цэлым вадаспадам.*

*Я не ўбачыў,*
*не пазнаў,*
*Так схаваўся ў кроне.*
*Ён, як крона, шумны сам*
*І такі ж зялёны.*

У вершы ж "Поўня" ёсць і элементы пазнавальнасці, пра што лёгка ўпэўніцца, прачытаўшы твор ад пачатку да канца: "Каціўся ўночы // Кружочак бляшаны / / Праз сонны алешнік // У вёску Альшаны. // Каціўся, // Свяціўся, // З дарогай // Лучыўся. // Не колам, // Не кругам — // Кружочкам лічыўся. // Каціўся над лесам, // Каціўся над полем. // А зваўся кружочак, — // Каб ведалі! — // Поўняй".

Хочацца згадаць і верш "Воўчы білет", у якім, дарэчы, як у некаторых іншых творах, прысутнічаюць гумарыстычныя ноткі, а падобных твораў у беларускай дзіцячай літаратуры якраз і не стае. Мала якія пісьменнікі дазваляюць сабе падобнае "паслабленне". Відаць, мяркуючы, што з хлопчыкамі і дзяўчынкамі трэба размаўляць толькі сур'ёзна. Але ж і пра сур'ёзнае, пры адпаведным таленце, лёгка гаварыць з усмешкай. У чым зноў жа пераконвае К. Камейша. Вельмі шкада зайца, якому "выдалі... воўчы білет": "Хто ж яго ў гвардыю // Возьме служыць?!" Але ж не толькі з-за гэтага:

*Выдалі зайцу воўчы білет,*
*Лепей бы выдалі воўчы абед.*

"Крыгагром" — гэта і казкі "Куды заехаў вусень", "Кот Нелавімыш", "Кравец Каняўскі", "Бабёр-сапёр", "Лясная школа танцаў", "Казка зімовай гары". Творы не на фальклорнай аснове напісаныя, а цалкам аўтарскія, што лішні раз пацвярджае, наколькі багатая творчая фантазія ў паэта, як умее ён ствараць адмысловыя сюжэты. Адной гісторыі з катом Нелавімыш дастаткова, каб упэўніцца, што казкі К. Камейшы — варты працяг літаратурных казак, ля вытокаў якіх стаялі многія знакамітыя пісьменнікі свету. Прыгоды, што адбываюцца з Нелавімышам, надзіва займальныя. І шмат у чым павучальныя.

Заслугоўваюць ухвалы і скорагаворкі, загадкі. Апошнія — пазнавальныя, а першыя — магчымасць патрэніравацца ў адчуванні слова, дакладней перадачы яго. А часам зрабіць гэта не так і проста:

*Чорны кот,*
*як камінар,*
*Лапай крапае*
*ліхтар.*
*Зверху каркае варона:*
*— Кр-р-ратаць лапай*
*р-р-рызыкоўна!*

Кнігу "Крыгагром" трэба залічыць у набытак не толькі самога аўтара, а і выдавецтва "Юнацтва", якое яшчэ раз засведчыла, што здатнае выпускаць кнігі, так патрэбныя юнаму чытачу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ХОЛАДНА

АПАВЯДАННЕ

Маргарыта ПРОХАР



"…Адкуль бярэцца гэтае прыкрае пачуццё віны, адчуванне таго, што ты вінаваты перад іншымі, перад самім сабой?

І чаму, калі сыходзіш ад людзей, з якімі нейкі час быў разам, нехта з іх абавязкова скажа ці падумае: здраднік. Нібы пакладзе кляймо: сёння ты быў сябра ім, а заўтра ты — здраднік.

Але так не бывае, калі яны любілі цябе; так бывае, калі не любілі…

Зрэшты, у кожнага свае апраўданні…"

Але чаму пра гэта падумалася менавіта сёння? Хаця ў памяці свае сцежкі, свой нябачны час…

За акном шумяць каштаны. Белыя суквецці іх, падобныя да свечак-пірамід, адгарэлі яшчэ ў маі, і зараз, нібы зялёныя пальчаткі, лісце хавае маленькія ў калючай і такой жа зялёнай, як яны самі, шкарлупіне круглыя і дробныя, быццам няспелыя яблыкі, каштаны. Увосень, калі сухім залатым дажджом асыпаецца лета, каштаны выспеюць і пачнуць ападаць, нечакана зрывацца з галін, з трэскам разрываючы кволае рыжае шкарлупінне, і, ляскочучы па асфальце, доўга каціцца па ім — бліскучыя, карычневыя, нібы круглыя шакаладныя цукеркі.

Гавораць, што такія восеньскія каштаны, калі іх пакладзеш у кішэню, прыносяць добры настрой і адчуванне шчасця. Вера не асабліва прыслухвалася да гэтага, але чамусьці рукі самі цягнуліся да каштанаў. Яна клала іх у сумку — адзін-два — і так яны і ляжалі там, чакаючы другой восені, высыхалі, чэзлі, браліся сухімі баразёнкамі-зморшчынкамі. Але найбольш за ўсё Вера любіла, калі дрэвы-каштаны толькі-толькі пачынаюць зацвітаць на пачатку мая, і з'яўляюцца тады якраз тыя белыя "свечачкі", як яна іх называла.

У такія дні яна заўсёды рана прыходзіла на працу. Ішла пустым гулкім калідорам, падымалася па лесвіцы, слухаючы адзінокае рэха крокаў. Прайшоўшы ў свой кабінет, адразу ж імкнулася да акна, адкрывала старыя рамы і доўга стаяла, гледзячы ў бела-зялёнае мора суквецця і лісця, дыхаючы свежым водарам белых кветак, і пах гэты здаваўся ёй такім жа белым, чыстым, святочным, і на душы рабілася лёгка і паспраўднаму, па-вяснову, радасна і шчасліва. І непрыкметна — у такім жа прыўзнятым добрым настроі — праходзілі дні.

Пралятала вясна, і жыццё нібы запавольвала крокі, цішэла, нарастала гарачыня. У рэшце рэшт з'яўлялася лета з асляпляльным сонцам, задухай і доўгачаканымі вечарамі — лёгкімі, напоўненымі цёплым мядовым водарам кветак, які адчуваеш нават у горадзе. Вось і зараз паволі надыходзіць адзін з такіх вечароў. Вера прайшлася па кабінеце, крыху затрымалася ля акна. З вуліцы дыхнула прахаладай, а ў небе — шараватым, нібы засланым туманам — больш не было відаць ніводнага з тых пухкіх бялесых аблокаў, якія несупынна плылі ў ясным гарачым блакіце днём і раз-пораз закрывалі сонца.

Слухаючы, як паволі ўсе навокал цішэе з надыходам вечара, нібы акунаючыся ў жаданую прахалоду, Вера толькі цяпер пачула, як жа яна стамілася. Ад усяго: ад працы, ад бясконцых мітрэнгаў і навалы дробных клопатаў кожнага дня. А больш за ўсё насцярожвалі раптоўныя, нечаканыя хвалі адчаю, неспакою, тугі, якія захлыналі сэрца. Часта гэта здаралася падчас самай што ні ёсць бяскрыўднай гутаркі. Нейкае слова, пагляд, рух… Ды і яна сама, зрэшты, не ведала — што… Яно налятала, як подых халоднага, сцюдзёнага ветру, і Вера ўздрыгвала; пасля каб ніхто не заўважыў, непрыкметна нахіляла галаву, прыкрываючы рукою вочы, слухаючы, як унутры ўсё то ледзянее, то раптам усхопліваецца нервовым, надрыўным, падобным да ўнутранага плачу, узрушэннем…

Праўда, ніколі ніхто гэтага не заўважаў. Усе лічылі яе надзвычай вясёлай, прыемнай, абаяльнай. І нават старэйшыя жанчыны ставіліся да яе, іх маладой начальніцы, даволі прыязна.

І толькі адзін чалавек заўважыў тое, што не бачыў ніхто — выпадковы наведвальнік, які прыйшоў падпісаць нейкую паперу. Яна пачала чытаць, і раптам яе ахапіла гэтая ледзяная нервовая хваля, і Вера ніжэй нахілілася да стала, хаваючы бледны, напружаны твар.

– Вам дрэнна?

Яна ўздрыгнула ад гэтага пытання і разгубілася. Каб неяк усё ж патлумачыць сітуацыю, сказала:

– Мне проста холадна.

– Давайце я зачыню акно.

– Добра.

Пакуль зачынялася старая скрыпучая рама, Вера здолела перамагчы здранцвенне. Але толькі пасля, успомніўшы свае словы, здзівілася: ёй у тую хвіліну і сапраўды было вельмі, надзвычай холадна — унутры…

Наляцеў вецер, і зноў зашумелі каштаны, нібы закалыхалася цёмна-зялёнае мора.

Вера хвіліну моўчкі пастаяла ля акна, а потым пачала збірацца. Усе ўжо даўно пайшлі: было а сёмай гадзіне. Вера часта гэтак затрымлівалася пазней за ўсіх: не любіла пакідаць няскончаныя справы на заўтра.

Праўда, сёння затрымалася па іншай прычыне: проста хацелася пайсці адной, пабыць у цішыні.

Дамоў вырашыла ісці пешшу: было недалёка. Яна выбрала шлях праз парк. Дрэвы закрывалі вечаровае, аднак яшчэ даволі гарачае сонца, таму было прыемна ісці ў гэтай створанай імі лёгкай паўзмрочнай прахалодзе. Знікала стомленасць, на душы станавілася спакойна, добра.

Вера перайшла на вузкую сцежку, якая выводзіла да тралейбуснага прыпынку на вуліцы. Раптам пачула крокі. Хтосьці спяшаўся, магчыма, даганяў яе. Вера не вытрывала і азірнулася.

Побач з ёю спыніўся высокі хударлявы мужчына гадоў трыццаці пяці. Светлыя, коратка пастрыжаныя валасы і незвычайныя — шляхецкія — бародка і вусы, прычым яны яму вельмі пасавалі. Твар інтэлігентны, добры. І ўсмешка прыязная.

– Добры вечар! — першым павітаўся ён.

– Добры вечар, — адказала Вера і таксама ўсміхнулася — іранічна.

Незнаёмец нечакана патлумачыў:

– Вы прабачце, я, відаць, памыліўся. Вы вельмі падобны да адной маёй знаёмай.

Вера прамаўчала.

– Я падумаў, што гэта яна, і таму кінуўся даганяць…

Ён стаяў і моўчкі глядзеў на яе.

– І чаго вы чакаеце? — насмешліва запытала Вера.

– Яшчэ раз прашу прабачэння… — і ён памкнуўся пайсці.

Вера зрабіла крок, аднак неспадзявана зачапілася за корань дрэва — гладкі, выбіты не адной парай ног, — і ўпала б, каб не яе выпадковы сустрэчны: ён паспеў яе падхапіць.

Вера войкнула ад болю ў назе, нават слёзы паказаліся ў вачах.

– Баліць? — спачувальна запытаў мужчына, падтрымліваючы яе пад руку.

Вера маўчала, слухаючы боль, які паволі цішэў, адыходзіў некуды ўглыб. Яна ступіла раз-другі і з палёгкай уздыхнула: абышлося, вывіху няма.

– Я вас праведу, — прапанаваў мужчына, — раптам што…

Вера толькі паціснула плячыма: ёй было ўсё роўна.

Давялося пазнаёміцца: ён назваўся Віктарам, сказаў, што працуе інжынерам у фірме, назвы якой Вера не запомніла. Ды яна асабліва й не слухала яго. Ёй нечакана падумалася: як дзіўна перакрыжоўваюцца лёсы, паўтараюцца сустрэчы. Мінулае не хоча заставацца ў мінулым…

..У такі ж цёплы летні надвячорак — ужо так даўно-даўно, нібыта было ў іншым, не ў тваім, а ў зусім чужым жыцці, — яна, Вера, нядаўна скончыўшы інстытут, крочыла палявою, у жыце, сцежкай да вёскі, у якую прыехала настаўнічаць. "Студэнтачка", — ласкава называлі яе, — танклявую, худзенькую дзяўчынку, якая сама знешне не адрознівалася ад тых дзесяцікласніц, у якіх была настаўніцай. Але гэта — пасля…

А напачатку была сцежка ў жоўта-залатым жыце, звонкі бярэзнік ля незнаёмай, амаль схаванай у зяленіве садоў вёсцы. Вера заблукала тады ў тым ціхім бярозавым гайку і прысела перадыхнуць на паваленую, дзе-нідзе струхлелую і ацярэбленую мурашамі і карэедамі бярозу. І толькі тут яна заўважыла непадалёк чалавечую постаць. Вера не ведала, ці радавацца, ці не з такой нагоды.

Чалавек павярнуўся. Гэта быў высокі хударлявы хлапец прыкладна яе ўзросту. Твар сур'ёзны, няўсмешлівы, і цёмныя валасы, здавалася, яшчэ больш падкрэслівалі гэта. Вочы задуміва аглядалі наваколле. Над галавою шумеў гай, і хлопец, здавалася, чуйна прыслухоўваўся да гэтага пошуму, нібыта слухаў толькі яму вядомы голас.

Вера, назіраючы за ім, абаперлася на сухую галінку. Галінка з трэскам зламалася. Хлопец азірнуўся і ўбачыў Веру на паваленым дрэве, якая схапілася, каб не зваліцца, за голле алешніку, што рос побач.

Яны павіталіся, і Вера папрасіла падказаць ёй, як прайсці ў вёску. Аказваецца, ён таксама ішоў туды.

– Ігар Гаўрылюк, настаўнік, — назваў сябе.

Вера ў адказ заўважыла, што, мабыць, іх шэрагі з сённяшняга дня папоўняцца: яна таксама, відаць, будзе працаваць у іх школе ў Бярэзніках.

Ён толькі кіўнуў галавой, але нічога не сказаў. Вера таксама не наважылася пачынаць якую-небудзь гаворку, таму далей ішлі моўчкі.

Хутка яны выйшлі на дарогу, якая вяла праз гай. Пясчаную, прыкатаную, дзе-нідзе ў выбоінах. З поля дыхнула пераспелым жытам, распараным ад сонца. Па ствалах бяроз абапал дарогі беглі сонечныя палоскі святла, збягалі ўніз, хаваліся ў травах.

– Ну як, падабаецца тут? — раптам запытаў Ігар, аглядаючы шырокі абсяг палёў — залатых і бясконцых, з адзінокімі купкамі дрэў між іх.

– Хораша… — згадзілася Вера, дыхаючы цёплым, прывольным ветрам поля.

Яны выйшлі да вёскі. Але спачатку ўбачылі сад — вялікі яблыневы сад з водарам белага наліву ў жніўні: сумна-салодкага, як адыходзячае лета, — мядовы, сонечны водар наліўных, жоўта-белых яблыкаў. Яблыневы сад заўсёды чамусьці нагадваў Веры дзяцінства. На лета яна ездзіла ў вёску, калі яны яшчэ не прадалі там дом. І ў вёсцы быў сад: высокія-высокія грушы і яблыні — ад белага наліву да позніх антонавак, якія Вера каштавала ўжо не ў садзе, а з вялізных скрынак, якія прывозіў ім дзед.

А белы наліў — жнівеньскі белы наліў — яна любіла сама збіраць уранні — крамяныя, халаднаватыя і мокрыя ад расы яблыкі.

Альбо — увечары, калі заходзіць за дрэвы сонца, і яблыкі становяцца залатымі, ружовымі, казачнымі. А потым прыходзіць ноч, і ў яе цішыні, напоенай водарам саду, добра моўчкі сядзець і слухаць, як падаюць, зрываючыся з галін, яблыкі…

Убачыўшы яе міжвольнае захапленне садам, Ігар спытаў:

– Прыгожа?

– Так, — шчыра прызналася Вера і ў сваю чаргу запытала: — А вы даўно тут?

– Нядаўна, з год. — Ён замаўчаў, аб нечым задумаўся, аплятаючы вакол пальца зялёную сцяблінку. Пасля дадаў: — Цяпер мне здаецца, што трэба любіць не толькі тыя мясціны, дзе ты нарадзіўся, але і тыя, куды цябе скіраваў лёс: там, дзе ты сёння. Гэта вельмі важна: усюды сваё хараство, свая радасць. І ты проста вучышся любіць, і сэрца тваё ад гэтага робіцца чыстым і спакойным.

– Вы, аднак, філосаф, — Вера ўсміхнулася.

– Гісторык. Па адукацыі. Хаця мы ўсе ў пэўны час свайго жыцця становімся філосафамі.

Вёска была як вёска: хаты з агародамі, прысадамі, а далей — палі, пашы.

Выйшлі да будынка школы — двухпавярховага, сучаснай планіроўкі. Вера нават здзівілася: думала ўбачыць звычайную хату.

Прайшлі ў настаўніцкую. Вера пазнаёмілася з такімі ж маладымі, нядаўнімі выпускнікамі інстытута, настаўнікамі. Высокі чарнявы хлопец з птушыным носам назваўся Сяргеем, а светленькая дзяўчына са смешнай кароценькай грыўкай над вачыма — Кацяй. За сталом чытаў газету трэці — юнак у акулярах, Сямён, сарамлівы, ціхі, з мяккім, цёплым характарам.

Чаму гэтыя першыя хвіліны знаёмства, тое першае ўражанне так урэзалася ў памяць?..

У жыцці кожнага чалавека ёсць знаёмыя, а ёсць сябры, з якімі табе добра не толькі гаварыць — проста маўчаць, якія цябе разумеюць і якіх разумееш ты, якія давяраюць табе і якім ты давяраеш. І за тыя паўгода працы яны, маладыя, сталі такімі добрымі, шчырымі сябрамі. Дык чаму, чаму ўсё так здарылася? А можа, гэта яе выдумкі, нічога не адбылося, ніхто ні ў чым яе не абвінавачвае, а прычына ўсяму — лёс, які рана ці позна раскідвае людзей, як вецер лісце? І гэта ўсе разумеюць, і толькі яна не можа з тым змірыцца. Але чаму засталася гэтая прыкрасць, чаму хочацца зноў вярнуцца туды і нешта патлумачыць, апраўдацца? Але...

– Вы мяне не слухаеце?

Вера страпянулася. Яны, аказваецца, падышлі да тралейбуснага прыпынку. А яна не заўважыла і нічога не чула. І так заўсёды, калі пачынала ўзгадваць тыя далёкія гады і той час…

Яна ўздыхнула і сказала:

– Так… Успомніўся выпадак…

Ён прамаўчаў.

– Мне — далей, праз вуліцу, — патлумачыла яна. — Тут блізка, так што не турбуйцеся…

– Не, я правяду.

Вера толькі паціснула вачыма: няхай.

Яны спыніліся ля святлафора. І Вера хутчэй не ўбачыла — адчула яго позірк. Так калісьці глядзеў Ігар — закаханымі, цёплымі вачыма. Аднойчы, калі яму таксама здавалася, што яна гэтага не бачыць, не ведае…

Ігар… Яна і да гэтага часу не можа сябе зразумець. Ды і ці было каханне? І ніхто з іх пра яго не гаварыў, і прызнанняў не было. А вось яна не можа забыць… І разумее: гэта смешна, ніхто пра такое не помніць, трэба стаць, як усе, яна ж сучасны чалавек. Але штосьці не адпускае — там, глыбока ў душы… Стаць, як усе… А можа, гэта толькі здаецца, што ўсе — шчаслівыя і нікога не трывожыць памяць?..

А ім было так добра разам… Ніколі ні з кім Веры не было гэтак добра. Ігар часта пасля сваіх урокаў заходзіў да яе ў кабінет. Яны доўга гаварылі — пра ўсё: пачынаючы ад надвор'я і заканчваючы абмеркаваннем Голдынга ці Брэдберы. І ніхто з іх так і не сказаў галоўнага. Ды і не магла яна тады і падумаць, што ніхто не здолее заняць ягонае месца ў яе сэрцы: шчыры, у многім наіўны, безабаронна адкрыты. Яна была больш практычнай, больш абачлівай. Але ці выратавала яе гэта? Чаму зноў і зноў яна вяртаецца думкамі туды, у тое далёкае, сваё, нібы пакінуўшы там, у мінулым, штосьці такое, без чаго яе сёння — як рака без вады, як птушка без крылаў, як халоднае сонца? Так, халоднае сонца. Ці халоднае сэрца. Для чалавека гэта тое самае.

Вера адарвалася ад успамінаў, калі падышлі да яе дома — старой сямiпавярховай будыніны. Развіталіся ля пад'езда.

– Бывайце, — проста сказала Вера.

– Бывайце… — у ягоным голасе яна адчула сум.

Аднак не азірнулася. Хутка зайшла ў пад'езд і зачыніла дзверы. А ноччу не магла заснуць: наноў успамінала тое, даўняе. За акном забарабаніў дождж. Вера паднялася, каб зачыніць фортку. Некалькі кропель упала ёй на руку — начныя, халаднаватыя, нібы зусім не летнія.

Раптам успыхнула, нібы одум: зрэшты, чаго яна перажывае? У яе ж усё ёсць. Усё тое, пра што яна марыла калісь як пра штосьці нязбытнае. Дык чаму так пуста, адзінока, чаму ёй холадна гэтак?.. У яе ўсё ёсць.

Вера прытулілася лбом да начнога шкла, і ёй упершыню за столькі год захацелася — як у дзяцінстве — заплакаць…

Прайшло тры дні пасля той дзіўнай сустрэчы ў парку. Вера і забылася пра яе за клопатамі, справамі. Напомніў тэлефонны званок. Званіў Віктар, запрашаў вечарам у кафэ.

– Як вы даведаліся нумар тэлефона? — строга запытала Вера.

– Гэта няважна. Дык вы прыйдзеце?

Вера ўсміхнулася сама сабе. Што ж, гэта ці не займальна. І яна згадзілася.

Віктар чакаў яе ля ўвахода: нібы памаладзелы ў белай кашулі, акуратна падстрыжаныя вусы і шляхетная бародка. Праўда, усмешка, якою ён сустрэў яе, была нейкая вінаватая, асцярожная.

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## "Палюбоўнік"

**15 студзеня на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі адбыўся адзіны паказ монаспектакля літоўскай актрысы і рэжысёра Біруты Марцінкявічутэ "Палюбоўнік". Гэтая пастаноўка Літоўскага нацыянальнага тэатра драмы распачала ў Мінску культурную акцыю, ініцыятарамі якой сталі Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі і Літоўскі цэнтр культуры, адукацыі і інфармацыі. Акцыя разлічана на адзін год, яе мэта — азнаямленне беларускай грамадскасці з культурнымі набыткамі суседняй дзяржавы.**

**"Палюбоўнік" пастаўлены па аўтабіяграфічным рамане французскай пісьменніцы М. Дзюра. У монаспектаклі, які доўжыцца ўсяго гадзіну, адлюстравана глыбокая і палкая споведзь маладой француманкі-эмігранткі, закаханай у кітайца. Маладых людзей падзяляюць яшчэ і розныя традыцыі, у якіх яны былі выхаваны (у Кітаі пачатку XX стагоддзя француженкі — толькі жанчыны лёгкіх паводзін). Шчырыя пачуцці — каханне, страсць, рэўнасць, замілаванне, боль ад вымушанага расстання**

**Б. Марцінкявічутэ ўвасабляе ў неверагодна пластычных рухах цела. У абсягах сцэны, падобнай па інтэр'еры на кітайскія пакоі, маналог яе гераіні гучыць ці то як дыханне стомленых палюбоўнікаў, ці то як жалобны нацыянальны спеў (спектакль ігграецца на рускай мове, але спявала актрыса палітоўску), ці то як шум мора ў ракавінках, якіх шмат раскідана на падлозе. Кінутай палюбоўнікам гераіні Б. Марцінкявічутэ, засталося толькі... мора. І тонкі, няўлоўны дым цыгарэт, які з дапамогай светлавых штукарстваў**



**ператвараецца на белых палотнах задніка ў хвалі... мора адзіноты і няспраўджанага кахання...**

**У 1998 годзе Б. Марцінкявічутэ ўдзельнічала ў мінскім фестывалі монаспектакляў "Я". Як прызналася актрыса, менавіта цёплыя ўспаміны пра Мінск, надалі ёй рашучасці паставіць свой монаспектакль у Вільні. "Палюбоўнік", прэм'ера якога адбылася ў 2001 годзе, ужо мае 1-ю прэмію на Міжнародным тэатральным фестывалі ў Санкт-Пецярбургу, з поспехам прайшоў на фэсце монаспектакляў у Кіеве, а таксама ў іншых гарадах Еўропы.**

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

## "Крыніца", № 1

**Выйшаў у свет першы нумар літаратурна-культуралагічнага часопіса "Крыніца". У ім чытач знойдзе творы вядомых і маладых беларускіх і замежных пісьменнікаў. Рубрыка "Я" прадстаўляе "постаць" паэта Аляксея Пысіна. Друкуюцца артыкулы пра яго творчасць А. Вярцінскага, А. Пісьмянкова і інш. У рубрыцы "Яна" надрукаваны раман-бестселер украінскай пісьменніцы А. Забужкі "Палявыя доследы ўкраінскага сексу". Пераклад на беларускую мову гэтага "скандальнага" твора зрабіў А. Астраўцоў, вершы А. Забужкі, змешчаныя ў ім, пераклала Г. Булыка. Рубрыку "У нас" прадстаўляюць вершы беларускага паэта М. Шчура, які жыве цяпер у Празе. У гэтай жа рубрыцы надрукавана апавяданне У. Дамашэвіча "Развітанне ў 37-м". У рубрыцы "Я маю твор..." друкуецца верш С. Явар. Рубрыка "Наша" падае дзённік Б. Сачанкі "З запісак рэдактара", які раней ніколі не публікаваўся, датаваны 60-мі гадамі XX ст. Пісьменнік адлюстраваў у ім сваю працу ў часопісе "Полымя", сустрэчы з аўтарамі тых гадоў.**

**Лаўрэатамі штогадовых прэмій часопіса "Крыніца" ў 2001 годзе былі названы: В. Аксак (паэзія), Б. Пятровіч (проза), В. Калацкая (мастацкі пераклад), А. Астраўцоў (крытыка і эсэістыка).**

**СБС**

ГАСЦЁЎНЯ

# У хоры ўся музыка — духоўная...

***Адзін з самых яркіх музычных калектываў Беларусі — Дзяржаўны камерны хор, створаны ў 1988 годзе. За час існавання калектыў прайшоў цікавы творчы шлях, насычаны шматлікімі запамінальнымі падзеямі. Удзельнічаў у міжнародных фестывалях, якія праводзіліся ў Беларусі, Польшчы, Славакіі, Нарвегіі; выступаў у Швецыі, Германіі. Яго ведаюць у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Таліне, Вільні, Кіеве, іншых гарадах былога СССР.***

***З 2000 года калектывам кіруе Наталля Міхайлава, выпускніца Беларускай акадэміі музыкі, энергічная і абаяльная жанчына. Мы пагаварылі з ёй пра мінулае, пра сучасны стан хору, пра яго будучыню.***



**— Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Ігара Мацюхова ў краіне ведалі добра. Хор пад вашым кіраўніцтвам — для шырокага кола слухачоў пакуль таямніца. Ці можна паміж "двума" калектывамі паставіць знак "роўнасці"?**

— Наш калектыў быў створаны як першы ў рэспубліцы камерны хор. Былі сабраны найлепшыя творчыя сілы. Адбыўся імклівы творчы ўзлёт калектыву. Малады таленавіты кіраўнік... Першыя гастролі — у Нарвегіі... Аднак мы ведаем, што жыццё развіваецца па спіралі. Узлёты чаргуюцца з падзеннямі. За час існавання калектыў спазнаў сур'ёзныя змены, у прыватнасці, кадравыя. Гэта першае адрозненне. А другое — у мяне свой, жаночы падыход да канцэпцыі харавога мастацтва, іншае стаўленне як да вакалу, так і да рэпертуарнай палітыкі.

**— А якім вам запомніўся хор Ігара Мацюхова? Якія ў яго былі характэрныя рысы?**

— Мабільны і разам з тым стабільны калектыў, высокапрафесійны, хуткай "вывучкі". Ігар Мацюхоў — таленавіты музыкант, і яго асабісты прафесіяналізм уплываў на якасць гучання хору. Адсюль — тонкая нюансіроўка ў музычных тэкстах, асаблівае стаўленне да слова. Я імкнуся прытрымлівацца таго ж шляху. Аднак мы, у адрозненне ад палітыкі Ігара Мацюхова, аддаём перавагу рускаму, славянскаму вакалу. У выяўленчым плане ў нас гучыць добрае "фортэ" і вельмі насычанае "піяна". Адвучаем тэнараў спяваць фальцэтам, каб чуць у хоры сапраўдныя мужчынскія тэмбры.

**— З энергіяй першаадкрывальніка Ігар Мацюхоў стварыў на абсягах культуры Беларусі нешта новае, "прабіўся" праз "асфальт" неіснавання, пакінуў калектыву багатую творчую спадчыну і... З'ехаў у Санкт-Пецярбург. Можна сказаць, што дырыжор скончыў свой адрэзак працы і меў поўнае права пайсці далей?**

— Ігар Мацюхоў вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі і, напэўна, імкнуўся ў той горад вярнуцца. Яго можна зразумець. Музычны бамонд паўночнай расійскай сталіцы больш патрабавальны за наш, больш "зубасты" і "слухасты". Музычнае жыццё там больш бурнае, чым у нас. Але не скажу, што ад'езд кіраўніка быў гладкі. Развіталіся у непаразуменні, разгубленасці...

**— Ваш хор мае цікавую гісторыю. Ён шмат гастраляваў, запісваў альбомы, перамагаў на фестывалях. Гэта адбываецца на фоне ўнутранай барацьбы, імкнення да творчага росту. Як гэты працэс уплывае на харыстаў? Усе яны таксама змагары?**

— Дырыжор — хор — неразрыўны тандэм. Харысты на роўных падзяляюць поспех дырыжора. А няўдачы, бадай, больш адбіваюцца на кіраўніку. Як сапраўдныя музыканты, харысты таксама глыбока перажываюць усё, што адбываецца з калектывам. Аднак паміж імі і дырыжорам усё ж ёсць розніца. Чалавек, які спявае ў хоры, не можа дакладна чуць агульнае гучанне. Тым і адрозніваецца conductor, каардынатар усіх, хто спявае. Колькі разоў было: харысты кажуць — "цудоўна спявалі", а дырыжор хітае галавой — "жудасна".

**— Пасля "бурнай" маладосці Дзяржаўны камерны хор пачынае "дарослае" жыццё . Натуральнае падарожжа калектыву па хвалях рэальнасці працягваецца. Ці ёсць у вас упэўненасць, што хор знаходзіцца ў добрай вакальнай форме і можа імкнуцца да новых перамог?**

— У мяне ёсць натуральнае для кіраўніка жаданне, каб у нашым хоры спявалі высокапрафесійныя, добра навучаныя вакаліўцы. На жаль, праблема кадраў сёння па-ранейшаму вострая! Таму я добра разумею, за які рэпертуар наш хор яшчэ не можа ўзяцца. Таму поўнага задавальнення сітуацыяй у калектыве пакуль няма. Ды і ўвогуле, — за канцэрт бываюць толькі адзін-два моманты, калі "мурашкі па скуры бегаюць"; калі адчуваеш поўнае задавальненне. Усё астатняе — як у спартсменаў: "пампаванне мышцаў". Трэніруемся, працуем, пакуль "колькасць" не пераходзіць у "якасць".

**— Калі з калектыву сыходзяць людзі, як вы гэта перажываеце?**

— Гэты працэс вось ужо 5 гадоў як пачаўся. Што там казаць — я прыйшла да таго, да чаго прыйшла: да "паваленай, закінутай вежы". Кадравая "цякучка", людзі не затрымліваліся. За той год, што я працую кіраўніком, удалося ў пэўнай ступені стабілізаваць становішча. Набралася мужчынская група хору. У параўнанні з той, да якой я год таму падышла, новая ў творчым плане больш-менш мяне задавальняе. З ёй можна працаваць цікава. Буду спадзявацца, што сітуацыя вакол харавой культуры зменіцца, і мы зможам надаваць больш увагі нашым творчым работнікам, харыстам, зможам павялічыць іх заробак.

**— Творчыя сувязі паміж тымі, хто сыходзіць і хто застаецца, не знішчаюцца?**

— Безумоўна, мы адно аднаго вельмі любім, сустракаемся, узаемна цікавімся поспехамі. Удзельнікі першапачатковага складу хору цяпер працуюць у розных калектывах, і нашы былыя выканаўцы там знаходзяцца на вельмі высокім рахунку. Яны — прафесіяналы вышэйшага класа. І ўвогуле, сярод харыстаў проста не можа быць ніякай варожасці. Былыя нашы ўдзельнікі прыходзяць да нас на канцэрты, параўноўваюць уражанні, успамінаюць лепшае.

**— Можна сказаць, што працэс "перабудовы" і стабілізацыі хору скончаны?**

— За год харысты навучыліся разумець, чаго я ад іх чакаю. Скажам так: яны "схопліваюць" мае заўвагі не з 20-га разу, а ўжо з 5-га. Асноўныя моманты кіравання, мае патрабаванні яны ўжо ўспрымаюць значна хутчэй. Ужо загадзя адчуваюць, калі я зраблю заўвагу. У гэтых адносінах калектыў стаў значна больш стабільны і мабільны. За год мы адно ў аднаго многаму навучыліся.

**— На што вы абапіраецеся, ствараючы рэпертуар хору? Ці ёсць у вас пэўныя тэмы, аўтары або выдатныя прыклады калег, якія адыгрываюць ролю арыенціраў, лоцманаў?**

— Спачатку вакальныя дадзеныя выканаўцаў дазвалялі ўзяцца толькі за жанр "Заходняй мініяцюры", які добра падыходзіць для музычнай "настройкі". Так сабралі рэпертуар заходняй музыкі. Потым пачалі пераходзіць да скарбаў праваслаўнай музычнай культуры. Паступова склалі адпаведны рэпертуар, на аснове якога робім канцэрты тэматычнага кшталту. Мы знайшлі шмат твораў, прысвечаных асобе Божай Маці. Потым стварылі канцэрт, сабраўшы тое, што адлюстроўвае тэму Нараджэння Хрыстова. Зрабілі канцэрт да свята Вялікадня. У сваіх паездках па краіне часта выступаем перад дзіцячай аўдыторыяй, адпаведна карэктуючы рэпертуар. Мне важна, каб дзеці, пачуўшы харавое гучанне, захацелі зноў пабываць на нашых канцэр-

ІМПРЭЗЫ

# Крок насустрач

Сёння ёсць нагода казаць пра пашырэнне беларуска-польскіх адносін, лічыць дырэктар Польскага інстытута ў Мінску спадар Цэзары Карпіньскі, але наладжваць працу будзе новае пакаленне гісторыкаў і грамадскіх дзеячаў.

Польскі інстытут у Мінску і Фонд Стэфана Баторыя з нагоды перадачы ў падарунак Нацыянальнай бібліятэцы РБ серыі кніг "Гістарычныя сшыткі" з архіва Літаратурнага інстытута Ежы Гедройца, а таксама іншых кніг польскіх выдавецтваў наладзілі прэзентацыю. На ёй прысутнічалі, акрамя супрацоўнікаў бібліятэкі, многія вядомыя асобы — прафесар А. Мальдзіс, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава і іншыя. Перададзеная ў мінулым годзе першая частка гістарычных сшыткаў са збору нашага слыннага суайчынніка Е. Гедройца выклікала вялікую зацікаўленасць даследчыкаў і навукоўцаў. Цяпер поўны збор перададзеных кніг будзе захоўвацца ў фондах бібліятэкі, а ў бліжэйшы час з'явіцца ў электронным каталозе.

Іншыя кнігі польскіх выдавецтваў, якія таксама застануцца беларускім чытачам, датычаць гісторыі, а таксама праблематыкі сучасных польска-нямецкіх адносін, якія заўжды былі складанымі і неадназначнымі. Спадар Карпіньскі зазначыў на адкрыцці, што апошнім часам кантакты Польшчы з Германіяй будуюцца на прыязнай і прымальнай аснове, таму гэта павінна стаць прыкладам і для кантактаў паміж Польшчай і Беларуссю, калі заходзіць гаворка пра сумесную і аб'яднаную Еўропу.

Зрэшты, апошнюю прэзентацыю кніг і шэраг папярэдніх, калі пры дапамозе Польскага інстытута ў Мінску засталіся унікальныя выданні, можна аднесці да аднаго са спосабаў наладжвання прыязных адносінаў і вырашэння даўніх гістарычных спрэчак. Польскі бок выказвае жаданне абмяркоўваць адносіны паміж нашымі краінамі, але працэс размовы зацягваецца і рэальнае рашэнне складаных гістарычна-нацыянальных пытанняў, як лічыць спадар Карпіньскі, будзе, хутчэй за ўсё не за нашым пакаленнем, а за новай маладой кагортай навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў. Магчыма, гаворку падштурхне прэзентацыя ў пачатку вясны кнігі па гісторыі Беларусі, якую разам з кнігамі па гісторыі Польшчы, Літвы і Украіны будзе выдаваць польскі бок. На працягу апошніх пяці-шасці год кніга гэта складзена з матэрыялаў, падрыхтаваных беларускімі навукоўцамі. На жаль, пакуль што яна выйдзе ў перакладзе на польскую мову, хоць мяркуецца надалей выданне ўсіх запланаваных кніг у перакладзе на іншыя мовы, у тым ліку на мове арыгінала.

Канешне, спрэчныя пытанні паміж нашымі краінамі вырашацца не сёння. Як зазначыў пасля адкрыцця выставы прафесар А. Мальдзіс: "Калі я бываю ў Польшчы, слухаю польскае тэлебачанне, чытаю польскія газеты і кнігі, параўноўваю іх з беларускімі, я лаўлю сябе на думцы, што нам выгадна ўяўляць адзін аднаго не суседзямі, а весці засцерагальную палітыку, даваць авансам апляявухі. А на гісторыю, нельга глядзець аднабакова, нельга пагаджацца з тым, што беларуская нацыя была толькі мужыцкая і хамская, якая жыла пад польскім прыгнётам. Рэч Паспалітую нельга блытаць з Польшчай сучаснай. Палітычна — гэта была супольная дзяржава двух народаў, а этнічна — не менш чатырох. На жаль, пазіцыя польскага прыгнёту дасюль выгадна некаторым гісторыкам. Будаваць жа адносіны трэба не на супрацьпастаўленні, а на супастаўленні".

**Н. ШАРАНГОВІЧ**



тах. Хочацца, каб на канцэрце ім не было сумна ад мудрагелістай праграмы. Наладжваем супрацоўніцтва і з нашымі беларускімі кампазітарамі. З Уладзімірам Карызнам мы разам вучыліся ў кансерваторыі. Ён, дарэчы, знаёміць нас і з творчасцю сваіх сяброў-кампазітараў. Часам асабістыя сувязі ўплываюць на рэпертуар хору, а бывае, што спачатку заёмімся з добрым творам і потым "выходзім" на яго аўтара.

**— А ці бяруць удзел у фарміраванні рэпертуару самі харысты?**

— Іх пажаданні ўлічваюцца. Калі кіруеш калектывам, трэба быць псіхолагам. Падчас чую: "Давайце лепш пасляваем Баха". Калі адчуваю, што твор выконваецца без драбочка навізны, мы рэзка мяняем кірунак. Калі твор пачынае гучаць надта кансерватыўна, трэба папрацаваць у іншым жанры, і тады страчаная зацікаўленасць вяртаецца. Студэнты Акадэміі музыкі часам самі прыносяць у хор творы, якія ім падаюцца цікавымі. А летась у нас працаваў нават студэнт кампазітарскага аддзялення, быў «свой»"кампазітар, і ён рабіў для нас харавыя апрацоўкі. Пасля заканчэння акадэміі ён быў размеркаваны на працу ў Маладзечна, а яго апрацоўкі мы выконваем і сёння.

**— Ваш хор удзельнічаў у VI Міжнародным фестывалі праваслаўных песняспеваў, што праходзіў у Мінску, і выконваў творы А. Архангельскага, М. Балакірава, П. Часнакова, А. Туранкова, А. Хадоскі. Наколькі моцны будзе гэты музычны кірунак у вашых перспектыўных планах?**

— Праваслаўная музыка — велізарны пласт нашай музычнай культуры. Без яе не абыходзіцца ніводны з нашых канцэртаў, нават у музычных школах. На мой погляд, у рэпертуары хору ўвогуле не можа быць бездухоўнай музыкі. Уся музыка для хору ў той ці іншай ступені — духоўная. А праваслаўныя спевы — глыток чыстага паветра. Заўсёды будзем звяртацца да яе. Да таго ж, гісторыя харавога мастацтва і пачынаецца ад царкоўнай традыцыі. Калі наконт музыкі іншых кірункаў меркаванні харыстаў не заўсёды супадаюць, дык спрэчак вакол духоўнай музыкі не ўзнікае.

**— Увосень Дзяржаўнаму камернаму хору споўнілася 13 гадоў. Лічба, што б ні казалі некаторыя людзі, — цудоўная! Царква забабоны не прымае, бачыць у лічбе "13" сімвалічны сэнс. Апосталаў было дванаццаць. Трынаццатым, — дакладней, першым сярод 13-ці, — быў Хрыстос. Вы верыце, што сёлетні сезон, акрамя звыклых цяжкасцяў, прынясе і шмат радасных, светлых імгненняў хору?**

— Прапаноў у нас мноства, і мы спадзяёмся апраўдаць чаканні нашых слухачоў і "заказчыкаў". З'явілася шмат сяброў-кампазітараў, якія жадаюць з намі працаваць. Мы зрабіліся запатрабаванымі. Вельмі спадзяюся, што гэты сезон будзе новай прыступкай да чарговай вяршыні ў творчасці хору. Тым больш, што для мяне асабіста лічба "13" таксама вельмі шчаслівая. Прыкладаем намаганні мы і для таго, каб зрабіць рэкламу хору за мяжой. Калі б знайшліся людзі, якія змаглі ў гэтым дапамагчы, мы былі б вельмі ўдзячныя.

**Гутарыў Андрэй АХМЕТШЫН**

*На здымках: Дзяржаўны камерны хор Беларусі і яго мастацкі кіраўнік Н. МІХАЙЛАВА.*

ВЫСТАВЫ

# Мемарыял са "знятых" твораў

Выстава гэта адбылася ў канцы мінулага года ў сталічнай недзяржаўнай галерэі "Золата". Яна вельмі кідка абазначыла сваю тэматыку, прапанаваўшы гледачам творы "недазволеныя цэнзурай". Арганізатары разлічвалі на скандал, таму і ўвага да экспазіцыі з боку журналістаў была немалая, асабліва незалежнага друку, які прыняў выставу з найлепшымі адзнакамі. Што і зразумела, акцыя рыхтавалася доўга, чуткі пра яе зараней "хадзілі" ўжо пэўны час. Тое, што выстава ўсё ж адбылася, не была забаронена і "правісела" ў прыватнай галерэі амаль два тыдні, было для яе арганізатараў пэўнай перамогай. Праўда, улады на выставу ўвагі не звярнулі — тактыка, якая апошнім часам выкарыстоўваецца і супроць іншых, больш маштабных дзеянняў апазіцыі. Скандала не адбылося, экспазіцыя, прайшла досыць непрыкметна, па звыклых законах шараговых выставаў.

На выставу я патрапіла ў дзень закрыцця, цікавасці надалі самыя розныя водгукі. Невядомых мне экспанатаў не чакала, бо гісторыя стварэння многіх з іх была добра вядомая, нараджалася на вачах. Памятаю, як усе дзесяць гадоў, калі суполка "Пагоня" ладзіла свае знакамітыя выставы 25 сакавіка кожнага года, мы прыходзілі спецыяльна задоўга да адкрыцця, каб не прапусціць новую "спрэчную" інсталяцыю, карыкатуры Алега Карповіча, усё тое, што, меркавалася, праіснуе не больш за адзін вечар. А наступным днём "лёталі" пагляздець на пустыя сцэны.

Гісторыя мастацтва апошняга дзесяцігоддзя дала нямала прыкладаў грамадзянскай мужнасці мастакоў, якія не цураліся забароненых тэм, не баяліся адзначаць нацыянальныя святы, адстойвалі Курапаты, былі на мітынгах у першых шэрагах, неаднойчы паспрабаваўшы на сваіх плячах моц міліцэйскіх "дэмакратызатараў". Думаю, многія творы А. Марачкіна, А. Шатэрніка ды іншых мастакоў сярэдняга і маладзейшага пакаленняў стануць адзнакамі часу.

Згадак пра "былое" на экспазіцыі было досыць. Памятныя інсталяцыі А. Карповіча і А. Марачкіна з вядомымі і ўжо падзабытымі тварамі былых дзяржаўных дзеячаў. Калажы-краты Т. Маркавец, плакаты У. Крукоўскага, нацыянальная сімволіка, ганаровыя медалі Пэн-цэнтра, зробленыя Л. Талбузіным, макет нявыдадзенай кнігі Э. Акуліна, жывапісны твор А. Клінава і вельмі шмат адвергнутага А. Пушкіна... Эпоха палітычных змаганняў 90-х прадстала перад вачыма як жывая. І магла б скласці вельмі цікавую і змястоўную залу, напрыклад, музея гісторыі канца мінулага стагоддзя ці частку мемарыяльнай экспазіцыі, прысвечаную дэмакратычнай апазіцыі. Чаму б і не? У гэтым выпадку былі б апраўданымі і выбар твораў, і шматслоўныя каментарыі да іх. Калі адносіцца да выставы як да мастацкай, паўстае пытанне да прынцыпу выбару твораў, не заўсёды высокай мастацкай якасці, што натуральна для палітычна-эпатажных аднадзёнак. Разгорнутыя каментарыі з прозвішчамі вінаватых у "рэпрэсіях" пэўнага твора маюць права на існаванне, але толькі калі яны не нясуць неўдакладненую, няпраўдзівую інфармацыю. Інакш губляецца сэнс акцыі, да якой будуць у любым выпадку прыглядацца больш пільна, чым да шараговай выставы.

Асабіста ж мне "запалі" ў памяць экспанаты, якія пакінулі пытанні. Вырваныя з кантэксту экспазіцыі, з палітычнага моманту стварэння, яны, мне здаецца, не маюць самастойнага і мастацкага існавання: так, напрыклад, "Адзенне беларуса XX стагоддзя" (1991, А. Пушкін) — апранутыя на манекен замурзаная вясковая апратка. "Плавільшчыкі расы" таго ж аўтара, забароненыя ў свой час за залішні эратызм, выклікаюць у памяці нядаўнюю выставу ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, дзе нямецкі мастак Д. Браўнс пасля запатрабавання адміністрацыі без асаблівых перажыванняў "прыкрыў" аголенага мужчыну на адным са сваіх фотаздымкаў. І зараней можна было б зразумець, што праваслаўная царква не дазволіць роспіс з выявай Язафата Кунцэвіча (тым больш у епархіяльным упраўленні Віцебска), альбо закрые покрывам 28 кв. метраў капліцы Св. Язэпа ў магілёўскім кафедральным касцёле. Але ж і Мікеланджэла вымушаны быў змірыцца з запатрабаваннем Папы "прыкрыць" часткі мужчынскага цела ў роспісах Сікстынскай капэлы...

Але горш за ўсё, што выстава выпраўляецца ў падарожжа па замежных краінах. І там незнаёмы з нашымі палітычнымі рэаліямі глядач даведаецца пра Беларусь — абараваную і зласлівую, што смяецца з сябе не ад моцы, але зыходзячы з сённяшняй палітычнай кан'юнктуры...

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**



*Выстава польскай кнігі* — *Фота М. ПРУПАСА*

# Трыццаць гадоў у мастацтве

Споўнілася 30 гадоў творчай дзейнасці рэжысёра, сцэнарыста, акцёра Міколы Макарцова. Сваю дзейнасць ён пачынаў у Гомелі, дзе працаваў пасля заканчэння Магілёўскай культурна-асветніцкай вучэльні і Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Менавіта тады вызначыў свой галоўны творчы прынцып: у аснове ўсяго павінны быць здабыткі народа. М. Макарцоў пачынае актыўна прапагандаваць беларускае слова, нацыянальныя народныя песні і танцы, народную тэатральную культуру. Менавіта Гомель для М. Макарцова стаў тым горадам, які прынёс яму сапраўдныя творчыя набыткі. Тут ён паставіў шэраг спектакляў па творах беларускіх пісьменнікаў, стварыў славуты фальклорны тэатр "Жалейка", які выступаў аж у Індыі. Значнае месца ў яго рэпертуары заняла творчасць Янкі Купалы.

Дваццаць гадоў М. Макарцоў працаваў у Гомелі, потым 10 — у Мінску галоўным рэжысёрам і рэжысёрам-пастаноўшчыкам шматлікіх рэспубліканскіх свят і фестываляў. Сярод іх — усебеларускае "Купалле" ў Тураве, "Гуканне вясны" ў Жыткавічах, "На крылах Палескага фальклору" ў Лельчыцах, а таксама святы, прысвечаныя Паўлюку Багрыму ў Крашыне, 500-годдзю Мірскага замка... Як адзін з рэжысёраў-пастаноўшчыкаў М. Макарцоў прымаў удзел у фестывалі "Беларусь — мая песня", у святах горада Мінска, Беларускага пісьменства і друку, ва ўрачыстасцях з нагоды 200-годдзя Адама Міцкевіча ў Навагрудку, вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Здымаўся ў кіно, выпусціў некалькі кніжак.

З нагоды 30-годдзя творчай дзейнасці Міколы Макарцова ў Гомельскім гарадскім культурным цэнтры адбылася вечарына. Юбіляра віталі прадстаўнікі абласнога ўпраўлення і гарадскога аддзела культуры, драмтэатра, абласной філармоніі, Цэнтральнага парку культуры і адпачынку, пісьменніцкай арганізацыі, заслужаная дзеячка культуры Беларусі дацэнт Беларускага універсітэта культуры Н. Загорская, віншавальныя тэлеграмы паступілі ад народнай артысткі Беларусі М. Захарэвіч і доктара мастацтвазнаўства А. Сабалеўскага з Мінска. А на сцэне гучалі песні, жарты, выступалі музыкі і танцоры.

**А. ШЫНЫПАРКОЎ**

# З лінгвістычнай спадчыны

**Філолагі Беларускага дзяржаўнага універсітэта падрыхтавалі два зборнікі выбраных прац вядомых у нашай краіне і за мяжой навукоўцаў — дактароў філалагічных навук прафесараў Льва Шакуна і Адама Супруна.**

**Вучні і калегі Л. Шакуна з кафедры гісторыі беларускай мовы далі зборніку назву "Карані роднай мовы", змясціўшы ў ім 33 артыкулы па самых розных пытаннях гісторыі беларускай мовы. Як вядома, вучоны на працягу ўсяго жыцця займаўся менавіта распрацоўкай перыядызацыі працэсаў фарміравання і развіцця мовы беларускага народа, ужо ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў падрыхтаваўшы такія фундаментальныя працы, як "Станаўленне і развіццё беларускай літаратурнай мовы" (1959), "Нарысы гісторыі беларускай літаратурнай мовы" (1960), "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" (1963; выд. 2-е. перапрац, 1984), якія і сёння служаць надзейнай асновай пры распрацоўцы многіх актуальных пытанняў беларускай лінгвістыкі.**

**Кніга складаецца з трох раздзелаў: "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы", "Сучасная беларуская мова і яе сувязі і дыялектамі і з іншымі славянскімі мовамі", "Мова асобных літаратурных твораў і роля пісьменнікаў у развіцці беларускай мовы". Артыкулы ў кожным з раздзелаў падаюцца ў храналагічным парадку, што дае магчымасць не толькі прасачыць ход навуковай думкі вучонага, але і ўбачыць, якія праблемы прыцягвалі ўвагу даследчыка на працягу яго шматгадовай навуковай дзейнасці. Сабраныя пад адной вокладкай артыкулы і выступленні сведчаць аб мэтанакіраванай працы вучонага ў галіне гісторыка-лінгвістычнай праблематыкі. Менавіта Л. Шакуну належыць прыярытэт у распрацоўцы такіх праблем, як значэнне царкоўнаславянскай мовы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, дыялектызмы ў помніках старажытнага пісьменства, мова як фактар нацыянальнай самасвядомасці, узаемадзеянне беларускай літаратурнай мовы і дыялектаў, "усходнія" і "заходнія" крыніцы папаўнення лексічных сродкаў беларускай мовы, беларуска-польскія моўныя ўзаемасувязі і інш. Шмат увагі надаваў вучоны вызначэнню месца і ролі ў гістарычным развіцці беларускай мовы Ф. Скарыны, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, грунтоўныя працы прысвяціў ён паэмам "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", творам палітычнай сатыры XVII ст. "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча". У зборніку змешчаны таксама артыкулы, у якіх характарызуецца дзейнасць Я. Карскага і І. Насовіча, вызначаюцца функцыянальныя стылі беларускай літаратурнай мовы, аналізуецца моватворчасць Ф. Скарыны і інш.**

**Энцыклапедычнай шырынёй інтарэсаў выдзяляўся і прафесар А. Супрун, вучні якога выдалі зборнік "Исследования по лингвистике текста". На працягу многіх гадоў вучоны займаўся тэксталінгвістыкай, будучы фактычна піянерам у гэтым накірунку. Прычым у яго працах удала спалучаліся розныя падыходы да тэксту як канцэнтрацыі асобных структурных адзінак розных узроўняў. Асноўным прадметам аналізу А. Супруна пры гэтым была лексічная арганізацыя тэксту, якая ўзаемадапаўнялася граматычнымі магчымасцямі слова: "Узаемадзеянне лексікі і граматыкі ажыццяўляецца не толькі на ўзроўні сказа, але і на ўзроўні групавання сказаў, што складаюць тэкст" ("Лексическая структура в ее соотношении с грамматической"). Асновай для зместавай, семантычнай інтэрпрэтацыі, — як лічыць вучоны, — можа быць і фанетычны паўтор. Напрыклад, спалучэнне "выбухны гук +р" з'яўляецца знакам крывавых дзействаў тыранаў у вершы Г. Ахматавай ("Языковая структура одного стихотворения Анны Ахматовой").**

**Выбраны метад аналізу тэкстаў быў правераны А. Супруном на творах самых розных па характары, часу стварэння, камунікатыўных установках, розных аўтараў. Сярод апошніх былі і беларускія паэты, у прыватнасці аналізавалася лексічная структура вершаў У. Караткевіча "Дзяўчына пад дажджом", Я. Коласа "Ручэй", Я. Купалы "З асенніх напеваў", М. Танка "Самыя балючыя раны..." і "Як збіраць кветкі". Ёсць у зборніку і артыкулы, прысвечаныя вершам рускіх паэтаў — Б. Пастарнака, К. Чукоўскага, У. Маякоўскага, А. Блока, В. Хлебнікава, А. Вазнясенскага, М. Цвятаевай.**

**Зборнікі выбраных прац Л. Шакуна і А. Супруна — надзейная аснова для далейшых пошукаў у галіне слова.**

**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ**

*АЛЬФА-БЭТА*

# Хочацца верыць!

*На адной з маіх паэтычных сустрэч у Гомелі, ужо на разыходжанне, калі схлынула чарга за аўтографамі, да мяне падышла невысокая танклявая дзяўчына, яшчэ амаль падлетак, з вучнёўскім сшыткам у руках, і, відочна саромячыся, ціхім голасам папрасіла: "Прабачце, калі ласка, я вельмі хачу, каб вы прачыталі мае вершы..." — "Зараз? Але ж мы ўжо ад'язджаем, я спяшаюся". — "Не, — сказала, — не зараз, пасля, дома..." — "А хто вы?" — "Студэнтка Рэчыцкага педкаледжа. Мы прыехалі ў Гомель на сустрэчу з вамі..." — "Пачытаць я змагу, але не ўпэўнены, што знойдзецца час напісаць вам пра свае ўражанні", — сказаў, гледзячы ёй у вочы, шчыра як ёсць. — "Такой бяды, — кажа, — усё роўна пачытайце, калі ласка..."*

*Усміхнуўшыся ў думках, я сшытак узяў, канешне. Дзіўная дзяўчынёха. Колькі помню — усе прасілі "пачытайце" менавіта дзеля таго, каб пасля пачуць водгук, атрымаць ацэнку, а тут... Проста — пачытайце.*

*Сшытак я пагартаў толькі праз дзень. Спачатку прачытаў тое, што аўтарка вершаў напісала пра сябе. "Мяне завуць Валасюк Марына. Мне 17 гадоў. На гэты час я вучуся ў Рэчыцкім педагагічным каледжы. У мяне ёсць ваша кніга вершаў. Яна называецца "На высокім алтары". Многія вершы ў ёй мяне закранулі. Я ўвогуле люблю вершы і люблю чытаць. Пісаць я пачала яшчэ ў 1998 годзе. Тут — мае больш спелыя вершы, апошняга часу. Увогуле-то пасля заканчэння каледжа я хачу паступіць у музычнае што-небудзь. У каледжы я хаджу на хор, мяне запісалі ў групу першых сапрана, чаму я вельмі рада. Музыка, напэўнае, для мяне значыць трохі больш, чым паэзія. Я яе абагаўляю. Я нават сама ствараю мелодыі, але толькі ў галаве, запісаць не ўмею. Яшчэ адно маё захапленне — астраномія. Усё сабіраю пра неба, пра зоры і г.д. Я свае вершы яшчэ нідзе не друкавала. Сама я нарадзілася ў Хойніках, 26 чэрвеня 1984 года". Прачытаў гэта і задумаўся. За два гады да Чарнобыля, у Хойніках. Дзіця-ахвяра. І прачытаў вершы — і на рускай, і на беларускай мовах. На рускай у сшытку больш. Але на беларускай лепшыя — яны ў меншай залежнасці ад начытанасці, ад паэзіі "куміраў", у іх больш свайго ўласнага пачуцця і жывога, непасрэднага рэагавання на свет. Менавіта ў іх я знайшоў і боль Чарнобыля, хоць самога гэтага слова і няма. І мне таксама забалела. У 17 дзявочых гадоў пісаць: "Паплач, мая прыроданька, пра лёс дачкі сваёй!" — гэта ўжо не вершаскладанне, гэта ўжо — лёс, а значыць — паэзія.*

*Не ведаю, што стане на ўсё жыццё выбарам Марыны Валасюк — паэзія (а падставы ёсць), ці музыка (напэўна, таксама ёсць задаткі), ці можа... астраномія? А можа, і тое, і другое, і трэцяе разам? А чаму б і не?*

*Божа, як хочацца верыць, што з нашай роднай беларускай зямлі будуць узыходзіць і ўзыходзіць маладыя прыгожыя таленты, і іх будзе столькі, што ніякая чорная сіла не зможа іх ні заглушыць, ні затаптаць, ні вынішчыць. Бо толькі ў іх, у талентах — будучыня нашай любай Беларусі.*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

Марына ВАЛАСЮК

•

***Я палеткам сваім пакланюся,***
***Да зямлі прыпаду, памалюся,***
***І яе пацалую пяшчотна***
***Дый заплачу. Але не гаротна.***

***Дакрануся рукою калосся***
***І травіначкі кожнай кранууся,***
***І паміж усяго сугалосся***
***Я ад шчасця душою прачнуся.***

***І лугі, і лясы, і палеткі***
***Абдыму, акраплю іх слязою,***
***Кожны родны куточак палескі***
***Я прылашчу пяшчотнай рукою.***

***Пакланюся, душой залячуся,***
***І з бярозкай сваёй абдымуся,***
***І, пачуўшы гарачае сэрца,***
***У бацькоўскую хату вярнуся.***

•

***Плач, зямелька родная,***
***Плач аб сваіх дзецях:***
***Як і яны, гаротная, —***
***Для іх адна ты ў свеце.***

***Паплачце, травы з зёлкамі,***
***Пачуйце боль грудзей,***
***Свае слязінкі горкія***
***Праліце як хутчэй.***

***Паплач, мая прыроданька,***
***Пра лёс дачкі сваёй.***
***"Шчаслівае дарожанькі!" —***
***Скажы й махні рукой.***

***Што долечка пастылая,***
***Што гэткі жорсткі люд,***
***І што я ўсім нямілая —***
***Ці ёсць тут Божы суд?***

•

***Душа паэта — гэта слова!***
***Яно з ім звязана навек.***
***І што ж, скажыце, тут благога?***
***Паэт са словам — чалавек!***

***Душа паэта — гэта радасць.***
***Ён мусіць рад быць усяму:***
***Траве, дажджу, расе на градах, —***
***За гонар радасць мець яму.***

***Душу паэта раніць лёгка,***
***І гэта трэба помніць-знаць.***
***Не прычыняйце ж болю многа!***
***Бо можа... можа й не стрываць.***

*2001, вясна—лета.*

# ХОЛАДНА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Яны занялі столік ля акна. Афіцыянт прынёс шампанскае.

– За нашу сустрэчу! — прамовіў Віктар.

– За нашу выпадковую сустрэчу, — іранічна ўдакладніла Вера.

Віктар сумеўся. А потым сказаў праўду. Аказваецца, офіс фірмы, у якой ён працуе, непадалёк ад іх, у адной з тых шэрых будынін, што насупраць. І ён часта бачыў, як Вера вяртаецца дамоў альбо спяшаецца на працу. Карацей кажучы, ён закахаўся і не знайшоў ніякага іншага спосабу знаёмства, акрамя гэтай па-хлапечы арганізаванай сустрэчы, за якую зараз сам сябе дакарае і просіць у яе прабачэння.

Вера з цікавасцю разглядала яго. Нечым падобны да Ігара. Гэтаксама чырванее, такі ж няўмелы, нядатны на самыя простыя і бяскрыўдныя хітрыкі.

Напачатку яны гаварылі абы пра што: проста ветлівая размова двух чужых людзей. Потым Віктар ажывіўся і расказаў, як ён стаў інжынерам.

– Спачатку вучыўся на юрыста. Пасля пасправаўся з выкладчыкам і кінуў універсітэт. На наступны год падаў дакументы ў політэхнічны...

Вера здзівілася: хто б мог падумаць, што часам за мяккасцю, ціхмянасцю хаваецца такая цвёрдасць, такая вытрымка характару! Яе, Веру, лічылі на курсе самай смелай, самай рашучай. Аднак атрымалася наадварот — тады, у тым далёкім годзе, успамінаў пра які яна ніяк не можа пазбавіцца.

...Яны, маладыя, не любілі дырэктара. Ды і не толькі яны, а нават многія са старых выкладчыкаў. Прыдзірлівы да нудоты, рэзкі, часам, раззлаваўшыся з-за дробязі, мог чалавеку нагаварыць такое... Аднак выступаць супраць яго баяліся, бо меў нейкія моцныя знаёмствы ў раёне. Але выпадак, калі ён пачаў пры вучнях крычаць на Лідачу — маладую сарамлівую выкладчыцу музыкі, — абурыў усіх. Лідачка прыбегла ўся ў слязах у настаўніцкую. Там у той час быў Ігар і яна, Вера. Канешне, суцяшалі, як маглі. А ўвечары сабраліся ўсе маладыя настаўнікі і вырашылі на сходзе адкрыта і шчыра выказаць усё тое, што раней гаварылі толькі між сабой.

А ў той дзень прыехала якраз праверка. Былі на Верыных уроках, хвалілі і сур'ёзна паабяцалі, што змогуць з вясны перавесці ў горад: адкрывалася вакансія. А тут гэты сход... Вера доўга думала, вагалася і... не пайшла. Спаслалася на тое, што падскочыў ціск (гэта і сапраўды часта з ёю здаралася — спадчыннае). Але тады ён якраз быў у норме. Яна проста не пайшла. Пасля даведалася: многія з настаўнікаў "проста не пайшлі", гэтак жа "захварэлі", як і яна.

Дырэктара тады не знялі. Толькі праз год, калі адкрыліся нейкія яго фінансавыя махінацыі. Вера даведалася пра гэта, калі была ўжо ў горадзе.

Аднак хопіць успамінаў. Яна сама тады вырашыла так, а не інакш. Яна сама выбрала такі шлях. Ёй па ім і ісці...

У кафэ яны з Віктарам пабылі нядоўга: гаварыць асабліва больш не было аб чым, і Вера не хацела, каб ён падумаў, што нешта для яе значыць — больш, чым проста знаёмы.

Пасля, як выйшлі з кафэ, Віктар сказаў:

– Прабачце, зусім забыў, што абяцаў занесці сябру часопіс, ён вельмі прасіў. Не пашчасціла яму: трапіў у аварыю, пералом нагі. Ляжыць у бальніцы, сумуе. Я хуценька забягу, гэта побач, — і ён махнуў рукою ў бок бальніцы. — Вы пачакаеце?

І Вера, незразумела для сябе, прапанавала:

– А давайце зойдзем разам. Гэта лепш, чым я буду чакаць на вуліцы.

Зрэшты, ёй асабліва і не трэба было нікуды спяшацца.

У палаце амаль усе ложкі былі занятыя. Нягучна іграла радыё. Трое чалавек спала. Адзін чытаў дэтэктыў і еў размяклыя ад спёкі суніцы з вялікай талеркі, над якою кружыла муха. Пяты, той, хто быў ім патрэбен, ляжаў ля акна — там, дзе іграла радыё.

– Ігар, прывітанне! — Віктар памкнуўся да ложка.

Хворы павярнуўся.

Вера ўздрыгнула ад нечаканасці. Яна адчула, як ад хвалявання хутчэй забілася сэрца: Ігар! Узмужнелы, пастражэлы твар, лёгкія зморшчыны. Але гэта ён, той, далёкі і неспадзявана блізкі цяпер — Ігар.

Ён відаць, так і не заўважыў яе, адразу ўбачыўшы Віктара.

– Як маешся?

– Паціхеньку... — Ігар уздыхнуў. — Ляжу, як апошні лайдак

Вера ціхенька выйшла, асцярожна, бязгучна прычыніўшы за сабою дзверы. Амаль бегла па калідоры, ледзь знайшла лесвіцу, што вяла ў вестыбюль.

На вуліцы пахаладала. Крапчэў вецер. Глуха шумелі каштаны. Пацямнелае неба абяцала дождж. І ён не прымусіў чакаць. Кроплі былі халодныя. Чамусьці ўспомнілася бабуля Ганна з далёкай вёскі, дзе прайшло Верына дзяцінства, дзе застаўся сад з крамянымі яблыкамі белага наліву, якія з шумам падаюць уначы, зрываючыся з галін, і праз сон добра слухаць, як яны коцяцца па сцежцы, у траве... Бабуля Ганна гаварыла: "Увесну дажджы свежыя, улетку цёплыя, увосень халодныя..."

"Цяпер лета, а дождж — як увосень..." — падумала чамусьці Вера.

Наляцеў дажджысты вецер, і яна закрылася ад яго парасонам, азябла павёўшы плячыма: холадна...

ВАНДРОЎКІ

**Над самым вухам гудную цеплавоз, далучаючы энергію чалавечага розуму да шалёнага свісту ветру. Я прачнуўся, аглядзеўся і ўспомніў, што знаходжуся ў зале чакання сусветна вядомага чыгуначнага пераезду Чоп, што на венгерска-ўкраінскай мяжы. Вакол гаманілі "чаўнакі", мірна адбрэхваліся "жоўта-блакітныя" мытнікі, бы неахвотна працавалі замест сваіх вялізных аўчарак, якія моўчкі, але злосна рваліся з павадкоў.**

**Нечакана сярод бруду і павуціння зашмальцаванай раскошы я заўважыў нешта незвычайнае, нешта такое, што зусім выбівалася з абыдзённага. Я ўбачыў высокую дзяўчыну гадоў дваццаці пяці з невялічкім рукзаком, якую ніяк нельга было ўявіць менавіта тут. Высветлілася, што Яна (так звалі прыгажуню) працавала ў кіеўскай маладзёжнай арганізацыі, а зараз вярталася з камандзіроўкі ў Галандыю дахаты, у Львоў. На электрычках, ужо трэція суткі, ужо праз восьмую мяжу, намотваючы чатырнаццатую сотню кіламетраў. Гэткім жа недарэкам, відаць, выглядаў і я са сваімі дзвюма торбамі сербскіх кніжак, якія па чарзе здзіўлена гарталі югаслаўскія, венгерскія, украінскія і беларускія афіцэры. Таму мы і пазнаёміліся, і з захапленнем прагаманілі ўсе шэсць гадзін да цягніка.**

**Яна перадала мне нясцерпнае і незгасальнае жаданне пабываць у таямнічай і загадкавай Скандынавіі. Там, дзе, здавалася б, шмат падобнага да нас, толькі холадна і бязлюдна.**

**Размова гэтая адбылася ў верасні 1999 года, але толькі летась з'явіліся нейкія надзеі. Нарвежскія фермеры прасілі дапамогі. Паляцелі лісты, тэлеграмы, факсы ў Маскву, Осла, Мінск, Рыгу. І нарэшце зеленаватая віза з запаветным словам "Norge" («Нарвегія») заўсміхалася са старонкі майго пашпарта.**

# Рамантык з пэндзлем і сахаром

## ЭКСПРЭС МІНСК — ХЕРМАНСВЕРК

І вось мы ў цягніку Мінск — Масква, каб пасля ляцець на Осла. Гэта зараз усамаў ловяць ды ладанаў ладанам ганяюць, а тады (у ліпені) пра іх яшчэ нічога не чулі, а талібы былі недзе далёка. Таму патрапілі мы на «ТУ-154» без лішніх пытанняў. Даляцелі добра, хоць і баяліся, наглядзеўшыся апошнім часам па тэлебачанні розных авіякатастроф.

Не вельмі радаваліся мы, калі з трыццацігрыдуснай маскоўскай цеплыні патрапілі ў пахмурныя пятнаццаць еўрапейскай сталіцы. І вось першая сустрэча, першае знаёмства з таямнічымі нарвежцамі.

А я тым часам параўноўваў шыльды. На адной, пад якой імгненна прайшлі амаль усе пасажыры і дзе стаяў усяго адзін таўстун у форме, было пазначана «Для грамадзян Еўрасаюза». А на другой, дзе нас дваіх матлашылі чатыры афіцэры паведамлялася: «Для ўсіх грамадзян». Неяк прыкра мне стала і зусім-зусім не хацелася успамінаць бессмяротныя словы: «Я беларус, я ганаруся, што нарадзіўся на гэтай казачнай зямлі...»

Але ўсё скончылася добра, нас прапусцілі, толькі папыталіся: «Ці ведаеце, што павінны на працягу сямі дзён зарэгістравацца ў паліцыі?»

## «ТРОХІ» ПАПРАЦУЕМ

Гаспадар нам трапіўся неверагодна добры, уважлівы, гасцінны і — так, так — вясёлы і гаваркі. Часта сам жартаваў і нашыя досціпы разумеў (і гэта па-англійску!), ні хвілінкі не мог пасядзець спакойна, ціхенька.

Нарадзіўся ён на ферме на беразе Согне-ф'ёрда, што на захадзе Нарвегіі, і пасля сельскагаспадарчага універсітэта вярнуўся дахаты, дзе і разводзіць зараз авечак.

Дзядзька Юка, як мы празвалі яго, працаваў вельмі шмат, ад цямна да цямна, а ўвосень неадноййчы мы бачылі, як бегаў ён па двары, прычапіўшы да брыліка ліхтарык. Амаль усе выхадныя праводзіў у гарах, у клопаце пра свой непаслухмяны статак.

Наш гаспадар шмат распытваў студэнтаў-беларусаў, дый сам, як высветлілася, шмат чаго ведаў, асабліва пра нашыя памежныя спрэчкі з суседзямі ў дваццатыя гады. Нават карту аднекуль з падвала выцягнуў, дзе Польшча даходзіла аж да Стоўбцаў. Не адзін вечар правялі мы ля каміна, абмяркоўваючы заганы вялікіх дзяржаў і самадурства дыктатараў, амерыканцаў, немцаў, камуністаў... — зусім як недалужныя інтэлігенты на савецкіх кухнях шасцідзесятых гадоў.

Вось толькі працаваў ён нязвыкла для нас. Пачалося гэта літаральна па прыездзе. Сказаў нам фермер, што трэба яму забраць у сястры "some furniture" ("трохі мэблі"). «Ну добра, — падумалі мы, — джып ёсць джып, тое-сёе пакладзём». Але потым гаспадар узяў прычэп... І мы заклапаціліся. А калі высветлілася, што сястра пераязджае і што нам трэба пагрузіць мэблю з двухпакаёвай кватэры, зажурыліся. Пасля ж Юка задуменна зазначыў: «Паехалі возьмем яшчэ трохі». Тут мы ледзьве не залямантавалі, бо тыя «трохі» былі халадзільнік, газавая пліта і пральная машына. І ўсё гэта пасля ночы ў цягніку Мінск — Масква, пасля самалёта да Осла і цэлага дня блуканняў па горадзе...

Але і сам ён, толькі напярэдадні позна вечарам прыехаўшы, працаваў разам, ды што там разам — больш за нас.

І гэтае "трохі" паўтаралася неаднойчы. "Трохі фарбавання" зацягнулася на поўныя два месяцы, "трохі пагуляем у гарах" — пяць гадзін угару і дзве з паловаю ўніз, усё бягом і з авечкамі. За гэты час падняліся мы на паўтары тысячы метраў, да снягоў, на вышэйшую кропку Заходняй Нарвегіі. "Трохі пазбіраем фрукты" ператварылася ў тону сліў, паўтоны груш і тону яблыкаў. Звычайна яго штодзённы план прадугледжваў дзве-тры такія "трохі", кожнага з якіх нам з сябрам хапала на некалькі дзён.

## СЯМ'Я

Пра гаспадара нашага я ўжо напісаў, але дом трымаўся на жонцы, незабыўнай Карыне. Калі б не яна — засмеціў бы хату наш фермер ад падвала да гарышча. Толькі ад'едзе Карына — ужо посуд не змяшчаецца ў ракавіне, халадзільнік пусты, а праз дзверы не ўвайсці: заваленыя абуткам і вопраткаю. А Карына, наша незвычайная, мілая і сціплая Карына ўжо бяжыць з пыласосам, расцягнае смецце, прыбірае — і дом заззяў, хочацца прыходзіць, сядзець, заставацца ў ім.

Дарэчы, пра дамы. У гаспадара нашага іх было чатыры: адзін, дзе мы жылі, — шаснаццатага стагоддзя, другі, гаспадарскі, — канца дзевятнаццатага, і два — васемнаццатага! І гэта не выключэнне, а звычайная практыка нарвежскіх вёсак. Так яны будавалі і будуюць. Грунтоўнасць — вось, бадай, найлепшае азначэнне іх стаўлення да працы.

## ХАРЧЫ І ПІТВО

На вялікае маё здзіўленне не толькі беларусаў, як высветлілася, можна называць «бульбашамі». Па колькасці спажываемай бульбы і яе месцы ў штодзённым рацыёне нарвежцы мала нам саступаюць. Чатыры-пяць разоў на тыдзень сям'я гатуе стравы з яе. Між тым, разнастайнасцю ім пахваліцца цяжка — бульба ў асноўным толькі варыцца. А вось чаму я да самага апошняга дня не пераставаў здзіўляцца, дык таму, што гэтыя высцюлі-еўрапейцы вараць яе ў мундзірах і часта ядуць не лупячы. Ды ўвогуле, смажаць яны вельмі рэдка, і любую смачную рыбу «знішчаюць» сваёю варкаю. Так, галоўнаю ўрачыстаю стравою, адзнакай найвышэйшай увагі ў іх лічыцца вараная гарбуша са смятанай.

Але на кухні поркацца нарвежцы не любяць і гатуюць звычайна толькі на вячэру. Сняданак — гэта бутэрброды з рыбай, каўбасой, мясам, варэннем, сырам і яшчэ чым заўгодна. Але сказаць "з сырам" — значыць не сказаць амаль нічога, бо сыр яны вырабляюць жоўты (тыпу галандскага), белы, карычневы і спецыфічны горкі, прычым многія віды як з каровінага, так і казінага малака, а таксама змешваючы — усяго каля васьмідзесяці гатункаў. Таму, відаць, і не надакучае ім усе трыста шэсцьдзесят пяць дзён есці тое самае на сняданне.

У 1925 годзе Тур Б'ёрклунд прыдумаў спецыяльны нож для нарэзкі сыру, і зараз гэта — адзін з самых папулярных (і карысных) нарвежскіх сувеніраў.

Гародніну нарвежцы не вельмі шануюць, у актыўным ужытку, бадай, толькі морква ды капуста брокалі. Невялічкі памідор ці агурок могуць парэзаць на тоненькія лустачкі і есці цэлы тыдзень. Салатаў амаль не ўжываюць. Не любяць тут ні супоў варыць, ні кашаў. Але кулінарныя кнігі разыходзяцца вялікімі тыражамі, а на кожным тэлеканале абавязкова ёсць штотыднёвая перадача пра харчаванне. Не застаюцца без увагі і замежныя рэцэпты, бо нарвежцы любяць каштаваць нешта экзатычнае: мексіканскае, кітайскае, індыйскае, любяць італьянскую і англійскую кухню. Вялікае месца належыць соусам і прыправам.

Да рыбы тут пашана асаблівая. Яе ядуць два-тры разы на тыдзень, і заўсёды з асалодаю. Нацыянальнымі стравамі лічацца "лакс" (смажаны ці вэнджаны ласось), "рэкер" (вараныя крэветкі) і «торск» (траска).

Абавязковы кампанент да любой стравы — гарлачык вады, што пачэсна займае цэнтр стала. Запіваюць яны ўсё — ад славутых бутэрбродаў да цукерак. З гарачых напояў "нацыянальным" лічаць чай, які часта п'юць з малаком, але ў дваццатым стагоддзі чай моцна пацясніла кава. Між тым у апошнія два дзесяцігоддзі ўсё больш і больш людзей вяртаецца да чаю, але зараз ужо з адвараў, лісця, збораў.

Пра здароўе грамадзян увесь час клапоціцца дзяржава, што нас, грэшных беларусаў, часам раздражняла. Бо пачак цыгарэт каштуе пяць-сем долараў, і нават калі наскрабеш іх, то ледзьве знойдзеш, дзе засмаліць: амаль ва ўсіх памяшканнях забаронена, а на вуліцы на цябе пазіраюць са спачуваннем і некаторай грэблівасцю.

Яшчэ складаней у Нарвегіі з выпіўкай. Сухі закон — амаль равеснік нарвежскай незалежнасці: Нарвегія разарвала унію са Швецыяй у 1905 годзе, а ўжо ў 1919 годзе ўвяла поўны сухі закон, толькі ў 1932 годзе абмежаваўшыся "паўсухім", які шчасліва дажыў да сённяшняга дня. Некаторыя гарадкі захавалі сухі закон яшчэ і зараз, а ў гасцініцах там спіртное падаюць толькі замежнікам. Аднак дасведчаныя сталічныя грамадзяне, зларадна падміргваючы, зазначаюць, што па невядомых прычынах у гэтых высокамаральных гарадах вельмі шмат дамоў з першымі паверхамі без вокнаў. Як лічыцца, на гэтых першых схаваных паверхах бавяць час за самагонаварэннем і п'янствам.

Спіртное прадаецца выключна ў магазінах дзяржаўнай сеткі "Vinmonopol", — манапольках па-нашаму, — і толькі піва (прычым найчасцей безалкагольнае) можна адшукаць ва універсамах. Арганізавана манаполька выдатна. На ўваходзе ляжаць прыгожыя ілюстраваныя каталогі, якія маляўніча прадстаўляюць яе багатыя запасы. Вы выбіраеце па каталозе жаданую прадукцыю, бычцам на антыкварным аўкцыёне (тым больш, што і цана амаль аднолькавая), адрываеце квіток з нумарам на дзіўнаватым аўтамаце, які падобны да тых, што былі раней у нашых аўтобусах, і чакаеце, пакуль ваш нумар не з'явіцца на табло. Скарбніца манапольскі ўліку не паддаецца: тут знойдзецца літаральна ўсё — ад мексіканскай тэкілы да маскоўскай "Сталічнай". Аднак некалькі "але". Па-першае, манапольскі сустракаюцца вельмі рэдка: адна прыкладна на сто тысяч жыхароў. Так, у Осла іх пяцьшэсць.

Такім чынам, трапіўшы ў манапольку, вы прапіхваецеся да памянёнага ўжо аўтамата і адрываеце квіток з нумарам вашай чаргі. Нумар будзе прыемны, верагодна трохзначны, скажам, нешта паміж чатырыста трыццаць і шэсцьсот пятнаццаць. Можна тут і мацюкнуцца, але адразу разумееш: без квіткоў тут пачаліся б нашыя славутыя бойкі ля вінных крамаў часоў Міхаіла Сяргеевіча. Тут жа без чаргі ніхто не лезе, а ўсе дружна лупяцца на табло, дзе змяняюцца выклікаемыя да касы нумары. Займальна і карысна.

Калі вам усё ж такі хапіла часу дастаяцца да запаветнага прылаўка, праверце, ці хопіць вам універсальных сродкаў абмену. Літр нарвежскай гарэлкі каштуе каля сарака долараў, "Абсалют" ці "Маскоўская" пойдзе за сорак пяць, віно — пятнаццаць-дваццаць, лікёр — пад сорак долараў. Нацыянальны ж напітак нарвежцаў, "akevitt" ("аквавіта") вельмі паважаюць і высока ацэньваюць — сорак-пяцьдзесят пяць долараў за літр. Гэта гарэлка, настоеная на садавіне. Вылучаецца, бадай, адзін від аквавіты — L?iten Linie, бо яго пасля належнай вытрымкі, яшчэ грузяць на карабель і адпраўляюць у мора на пяць-шэсць месяцаў: выявілася марская боўтанка робіць смак гарэлкі вельмі адметным.

У цэнах гэтых каля васьмідзесяці працэнтаў займаюць падаткі: дзяржава не хоча, каб грамадзяне пілі, і таму падаражанне ідзе за падаражаннем. І грамадзяне ўжо прывыклі: на вуліцах ніколі не сустрэнеш п'янага, нармальным лічыцца за вечар абмежавацца бакалам віна ці кілішкам каньяку: глыточак гарэлкі ў Осла каштуе прыкладна столькі ж, колькі цэлая яе бутэлька на нашай з вамі радзіме.



## ВАКОЛІЦЫ

*Так, мы любім родны край,*
*Горы, фіёрды, цёмны гай,*
*Мора, вецер адзінокі,*
*Неба, хмары і аблокі.*

Так пачынаецца дзяржаўны гімн Нарвегіі, і вось ужо трэцяе стагоддзе ён дае сілы і надзею нарвежцам, дапамагаючы ім захоўваць бадзёрасць і ўсмешку. Яны любяць і ганарацца сваёй зямлёй, а супраць кожнага слова незадаволеных ці скептыкаў сведчаць натоўпы турыстаў, якія з году ў год лічаць за шчасце трапіць сюды.

Нарвегія — краіна, у якой каля 80 % тэрыторыі займаюць горы, узгоркі і ўзвышанасці. Прырода і людзі не адно тысячагоддзе сумесна апрацоўваюць першабытныя камяні, і зараз турысты едуць "проста паглядзець" на вяршыні, захутаныя ў футра аблокаў, спыніцца пад пырскамі магутных вадаспадаў, прыязджаюць, каб доўга-доўга паднімацца, паўзці ўверх і, нарэшце, адчуць усю веліч свету і мізэрнасць чалавека перад тварам прыроды. Горы ў Нарвегіі немаладыя і невысокія, схілаў стромкіх няма. Але цвёрдая скальная парода часта змяняецца падманліва роўнымі забалочанымі ўчасткамі, дзе лёгка праваліцца да пояса. Хоць і цяжка па гэтых гарах хадзіць, але ніадкуль большай бадзёрасці не прынясеш.

Адзін з любімых атракцыёнаў — горная чыгунка Флом. Гэта дваццаць шэсць кіламетраў рэек паміж Арландам і Лэрдалем на захадзе Нарвегіі, вандраванне па якіх займае ўсяго сорак хвілін у кожны бок. Прыцягваюць жа іншаземцаў перш за ўсё паўтара кіламетра, пераадольваючы якія цягнік узнімаецца на восемдзесят метраў, абвіваючыся змяёю вакол гары.

*(Заканчэнне на стар. 14 — 15)*

## Амбасадар ставіць лаву, пракуратура — шматкроп'е

**Надзіва гучна прайшла ў Курапатах цырымонія адкрыцця памятнага знака "Ад амерыканскага народа". Славутая "лава Клінтана", усталяваная ва ўрочышчы падчас візіту ў Беларусь амерыканскага прэзідэнта (1994 г.), нейкі час знаходзілася на рэстаўрацыі пасля пашкоджання невядомымі вандаламі. Пра гэты ганебны ўчынак зараз нагадвае бронзавы вянок і мемарыяльная шыльда, дзе, апроч іншага, адзначана, што знак "адрэстаўраваны і пераўсталяваны" амбасадарам ЗША Майклам Козакам. (Усю працу выканаў скульптар Алесь Шатэрнік.). 15 студзеня ўрочышча наведалі не толькі апазіцыйныя палітыкі, якія ў сувязі з падзеямі вакол пашырэння Мінскай кальцавой дарогі тут бывалі неаднойчы, але і прадстаўнікі ўрада на чале з намеснікам міністра замежных спраў Аляксандрам Сычовым.**

**Некаму гэты факт можа падацца ледзь не пакаяннем беларускай дзяржавы перад народам за палітычныя рэпрэсіі 30—40-х гадоў. Здавалася б, пасля згаданай падзеі і нядаўняга афіцыйнага заключэння пракуратуры РБ у справе Курапатаў пастаўлена нарэшце кропка. Аднак такі пункт гледжання нам падаецца наіўным.**

**Тое, што пошукі так званага "нямецкага следу" масавых расстрэлаў могуць аднавіцца, калі ў тым узнікне палітычная мэтазгоднасць, сведчыць і адказ начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем закона ў войсках і на транспарце А.Доўбыша старшыні грамадскага аб'яднання "Дыярыюш" Л.Андросіку. Не адмаўляючы злачыннай ролі НКУС БССР, старшы саветнік юстыцыі паведамляе, што маюцца сведкі, якія сцвярджаюць: расстрэлы праводзіліся і нямецкімі акупантамі. Аднак, маўляў, гэта "немагчыма пацвердзіць аб'ектыўнымі дадзенымі", паколькі "пошукі неабходнай інфармацыі па гэтым пытанні ў архіўных установах РБ і ў Расіі аказаліся безвыніковымі". Пакуль безвыніковымі? Тут варта звярнуць увагу на той факт, што матэрыялы апошняга следства не публікаваліся цалкам і на некаторыя пытанні грамадства дагэтуль не атрымала адказу. Напрыклад, адкуль у шэрагу пахаванняў узяліся нажы, брытвы, залатыя рэчы і г.д? Якія карнікі дапускалі такія хібы: савецкія ці ўсё ж нямецкія? Сумніўна, каб у архівах КДБ не знайшлося адпаведнай інфармацыі на гэты конт. Незразумелым застаецца, чаму не былі задзейнічаны нямецкія калегі і іхняя дакументацыя часоў Трэцяга рэйху? На жаль, у аб'ектыўнасці апошняга следства дае падставу сумнявацца і выснова пракурораў пра значна завышаную колькасць ахвяраў (30 тысяч чалавек). Маўляў, былі арганізаваныя раскопкі 23 меркаваных пахаванняў, а чалавечыя астанкі знойдзеныя толькі ў дзевяці. Аднак згаданыя "ілжэпахаванні" знаходзяцца па-за межамі курапацкіх могілак і на ранейшыя лічбы ніяк не ўплываюць (хіба што іх павялічваюць).**

**Улічваючы вышэйсказанае даводзіцца канстатаваць пытанне: "хто і каго страляў у Курапатах?" прагучыць яшчэ неаднойчы. А паколькі афіцыйныя органы дагэтуль не здолелі ўцямна патлумачыць канфліктуючым бакам грамадства ўсе нюансы справы, новае разбіральніцтва па Курапатах цалкам магчымае. А калі так, то і мемарыяла на месцы масавых пахаванняў давядзецца чакаць яшчэ доўга.**

**Вадзім ДОЎНАР**

## "Беларускі гістарычны часопіс", № 6

**Завяршальны ў 2001 годзе нумар "БГЧ" багаты на шэраг матэрыялаў. Адкрываецца ён віншаваннем міністра адукацыі РБ П. Брыгадзіна чытачам і калектыву рэдакцыі. Галоўны рэдактар В. Кушнер знаёміць з работай II з'езда настаўнікаў Беларусі ("Рэформа адукацыі набывае новыя якасці"). Змешчаны артыкулы Д. Лука і В. Шайкова "Паходжанне і ранняя гісторыя Полацка (VIII—X стст.)", М. Смяховіча "Метадалагічныя прынцыпы Нікало Макіявелі", В. Кісялёва "Строга сакрэтная аперацыя "Радзіма" (зіма—лета 1941 г.)", С. Маслоўскага "Музеі і музейная справа ў Мінскай вобласці", Т. Лянкевіч "Мінскі абласны краязнаўчы музей", Д. Лаўрыновіча "Дзейнасць Прагрэсіўнага блока ў IV Дзяржаўнай думе", В. Чаропкі "Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх", В. Мянькоўскага "Англа-амерыканская гістарыяграфія палітычнай сістэмы СССР (1980—1990-я гг.)", А. Французава "Казімір Андрэй Ягаўлавіч". Прадстаўлены радзелы "Методыка. Вопыт", "Матэрыялы для ўрокаў", "Для студэнтаў і выкладчыкаў", "Рэцэнзіі".**

ПАМЯЦЬ

# Можа, прыдадуцца для "Хмаркі"?

Наша мінулае бездзяржаўе дазволіла расцягнуць па розных народах і краінах шматлікія таленты і слынныя імёны.

Возьмем кампазітара Мечыслава Карловіча (1876—1909). Да нядаўняга часу яго лічылі польскім. Пасля пачалі называць беларуска-польскім кампазітарам. Такое азначэнне яшчэ куды ні ішло.

Нарадзіўся М. Карловіч у Вішневе колішняга Свянцянскага павета. Ягонае маленства праходзіла на вачах слыннага песняра Францішка Багушэвіча. Такі кранальны абразок пакінуў ён з часу маленства Карловічавых дзяцей:

"Паважаны і ласкавы пане! Вось цяпер я пазнаёміўся з усёй панскай сям'ёю! Чароўнае ўражанне робяць хлопчыкі! З малодшым інфантам я быў на Замкавай гары, у Батанічным садзе; аглядалі Вільню з гары, бо абысці ўвесь горад не было часу. Распавядаў мне пра свае паштовыя намеры. Ага, яшчэ былі мы на гімнастыцы, стралялі па мішэнях. Мілы хлопчык, нейкі мяккі ў рухах, лагодны, як яго бацька".



Францішак Багушэвіч



Мечыслаў Карловіч

Гэтая згадка пра Мечыслава 1887 года. Яму было адзінаццаць гадкоў. Характарыстыкі Ф. Багушэвіча кранаюць: "Мілы хлопчык, нейкі мяккі ў рухах, лагодны, як яго бацька". Гэта дазваляе адчуць, наколькі хлопчык быў мяккі і далікатны, калі іграў на фартэпіяна ці піяніна. Ф. Багушэвіч інтуітыўна адчуваў, што з яго прарасце таленавіты музыка. І гэта цешыла песняру душу. У яго самога расла дачушка. Яна была Мечыславава равесніца, таксама мела схільнасці да музыкі, спеваў. Усё гэта нейкім чынам лагодзіла Ф. Багушэвіча, стварала добры настрой, спрыяла цэлы дзень быць у гуморы, вандраваць па Вільні. Вунь колькі ён усяго абышоў з малодшым Карловічавым інфантам! Пабылі на Замкавай гары, у Батанічным садзе, зазірнулі на гімнастыку, стралялі па мішэнях! Думаецца, побач з Карловічавымі дзецьмі была і паэтава дачка Канстанцыя! А як жа інакш! Які бацька не скарыстае нагоду, каб не ўзяць з сабою дзіця на вандроўку, калі і сам вандруе ды яшчэ з дзецьмі такой шанаванай сям'і.

Не паспеў агледзецца Мацей Бурачок, як Мечыслаў стаў дзецюком, знаным у краі музыкам, скрыпачом. Аднаго разу Францішак Багушэвіч наважыў-

# Рамантык з пэндзлем і сахаром

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Яшчэ адна славутасць Нарвегіі — гэта фіёрды. Нягледзячы на тое, што значная частка тэрыторыі краіны ляжыць за Палярным кругам, мора ля яе берагоў не замярзае. Гэта дазваляе караблям з турыстамі амаль цэлы год вандраваць ля ўзбярэжжа, а іх пасажырам любавацца на сапраўдны цуд прыроды — нарвежскія фіёрды. Скалы тут стромка ўздымаюцца на дзесяткі метраў над морам, смарагдавую паверхню якога прарэзваюць шматлікія плыні і патокі з гор. Буйныя круізныя кампаніі арганізуюць на тыдзень ці два паездкі вакол Нарвегіі з заходам у Ісландыю ці нават у Грэнландыю, але больш звыклымі застаюцца аднадзённыя экскурсіі.

Мне ж асабіста найбольш спадабаліся нарвежскія паромы: вандраванне на іх не адніме ні шмат часу — рэдка больш за гадзіну, — ні шмат грошай — у межах дзесяці долараў. А задавальненне атрымліваеш незвычайнае.

І нарэшце зазначыў, што летась Нарвегію наведала каля трох мільёнаў турыстаў, — пры чатырох з паловай мільёнах уласнага насельніцтва. На Беларусі ў мінулым годзе пабывала... каля дваццаці пяці... тысяч іншаземцаў, — пры насельніцтве самі ведаеце якім.

### ЛЮДЗІ І НОРАВЫ

Нарвегія па тэрыторыі пераўзыходзіць Беларусь амаль у два разы, а насельніцтва мае ўсяго чатыры з паловай мільёны чалавек. Каля 98% жыхароў краіны — нарвежцы, на поўначы жывуць невялікія кампактныя групы саамі і фінаў (прыкладна 40 тысяч). Гарадоў тут няшмат, ды і тыя, нават па беларускіх мерках зусім невялікія.

Як мне падалося, нарвежцы — прастадушны і адкрыты народ. Калі нарвежац, запрашаючы ў госці, кажа вам: "Прыходзьце ў любы дзень, як будзе зручна", гэта значыць, што ён сапраўды заўсёды вас рады бачыць. Заднія думкі — гэта не пра нарвежца.

Такой жа адкрытасці яны чакаюць і ад партнёраў па бізнесе, любая крывадушнасць ці мана адразу адпрэчваюцца. Таму нявартa, бадай, везці занадта каштоўныя "сувеніры", мэта якіх будзе прасвечваць праз залатую абгортку. Якія б выдатныя адносіны не ўсталёўваліся ў вольны час паміж нарвежцамі, на працы яны забываюцца на іх. Калі для нас досыць натуральным будзе спецыфічнае стаўленне да сябра ці сваяка на службе, нарвежац выканае свой абавязак аднолькава для ўсіх грамадзян, аднолькава, але выдатна, на вышэйшым узроўні.

Далікатнасць, шчодрасць і гасціннасць неаднойчы прымушалі мяне ўзгадваць нашую стандартную ацэнку скандынаваў як "пахмурных троляў сучаснасці". Ці так гэта? Ну хто, скажыце, у нас прыйдзе да нейкіх наймітаў і будзе гадзіну на каленях поўзаць, дапамагаючы распальваць печку? Хто дасць сваю машыну і тры месяцы дзень за днём пусціць глядзець свой відэамагнітафон? А яшчэ і пытацца: "А можа, чаю, хлопцы, хочаце?"

Гумар там разумеюць і цэняць. Нарвежцы ўмеюць жартаваць і любяць гумарыстычныя перадачы, ахвотна расказваюць анекдоты пра сябе, але, вядома, больш любяць пра фінаў і шведаў — адвечных суседзяў-сапернікаў.

Нарвежцы вельмі любяць пагаварыць. Каля 99 % насельніцтва Нарвегіі пісьменныя, а дванаццацігадовая адукацыя становіцца абавязковай. Дадамо яшчэ, што вышэйшая адукацыя бясплатная, калі ж малады чалавек вырашае запісацца на сельскагаспадарчае аддзяленне — ільготы пералічыць становіцца цяжка. Нарвежцы любяць вандраваць па свеце і знаёміцца з іншымі краінамі па кніжках. Чытаюць яны шмат, і бібліятэкі маюць выдатныя фонды. Дзякуй богу, час для чытання ёсць: рабочы тыдзень — трыццаць сем з паловай гадзін, а калі застаешся пасля працы — значыць, не спраўляешся з абавязкамі.

### НАРВЕГІЯ НА КОЛАХ

Машыну тут любяць і імкнуцца набыць як мага раней. Вадзіцельскія правы выдаюць з васемнаццаці гадоў, але ездзіць пачынаюць ужо ў дзесяць — адзінаццаць, прычым і хлопцы, і дзяўчаты. Таму два-тры аўтамабілі ў сям'і — з'ява звычайная: па статыстыцы ў Нарвегіі каля двух мільёнаў легкавушак.

Але нарвежскаму ўраду такая сітуацыя, відаць, не падабаецца: кожны год ён павышае падаткі на аўтамабілі, дарогі, паліва, павялічвае мытныя зборы. Машыны ў Нарвегіі — адны з самых дарагіх у свеце, цэны тут разы ў тры вышэйшыя за беларускія, таму многія (ну, зусім як у нас) ездзяць купляць іх у Германію ці Галандыю. Літр бензіну, каштуе амаль адзін амерыканскі долар, а салярکі — каля дзевяноста цэнтаў.

Японскія аўтамабілі займаюць самыя моцныя пазіцыі на мясцовым рынку: каля 55 % прададзеных у мінулым годзе аўтамабіляў прыйшлі з Японіі. Гэта і "Таёта", і "Нісан", і "Хонда", і многія іншыя. Любяць нарвежцы і надзейныя "Вольву" з суседняй Швецыі, шмат тут "Аўдзі" і "Мерсэдэсаў", а апошнім часам, з-за дарагога бензіну, усё больш папулярным становіцца "Фольксваген". Амерыканцаў тут не вельмі шануюць, хоць "Форд" знайсці нацяжка. З савецкіх аўтамабіляў найбольш вядомы ВАЗ ("Лада"), але прыхільнікаў яго вы наўрад ці знойдзеце.

Асаблівая гаворка пра дарогі. Тут, звычайна праз нейкіх шэсцьдзесят метраў — ці паварот, ці спуск, або мост, тунель ці яшчэ якая «забава». Дарогі будаваліся даўно, і разлічаныя яны ў асноўным на гужавы транспарт. І таму зараз, хоць пакрыццё і выдатнае і дагледжанае, заўсёды напружана ўглядаешся наперад і з жахам даеш убок перад сустрэчнай фурай ці аўтобусам. Кюветаў тут няма, толькі скала ці абрыў, а дарога вузенькая-вузенькая. Іхнія магістралі (асабліва ў заходняй частцы краіны) у нас называюць трохі іначай — дарога з аднабаковым рухам.

Затое нарвежскі вадзіцель заўсёды ўважлівы і натрэніраваны, і ніколі не спіць за рулём.

### МОВА

Нарвежская мова разам з дацкай, шведскай, ісландскай і фарэрскай уваходзіць у паўночна-германскую групу індаеўрапейскіх моў. Пісьменнасць на ёй вядомая з IX стагоддзя. З-за уній з Даніяй і Швецыяй мясцовае насельніцтва доўга не мела агульнанацыянальнага сродку зносін, а захоўвала свае дыялекты, якія ў большай ці меншай ступені падпадалі пад уплыў магутных суседзяў. Нарвежцы, шведы і датчане без праблем разумеюць адзін аднаго. Розніца, як мне тлумачылі, у тым, што нарвежцу лягчэй размаўляць з датчанінам, чым са шведам. А вось чытаць нарвежцам лягчэй па-шведску, чым па-дацку.

У 1380 годзе Нарвегія аб'ядналася з Даніяй, і дацкая мова стала афіцыйнай мовай Нарвегіі. Надышла "чатырохсотгадовая ноч", — як ацэньваюць той перыяд зараз у Осла. Аднак увесь гэты час вуснай, размоўнай мовай заставалася мясцовая. Саюз з Даніяй перапыніўся ў 1814 годзе, тады ж была прынята першая канстытуцыя. Тым не менш дацкая мова заставалася адзінай пісьмовай мовай, што не падабалася многім нарвежцам.

Заслуга ў стварэнні новай нарвежскай пісьмовай мовы належыць перш за ўсё Хенрыку Вергелянду і Айвару Осэну. Толькі рабілі

